Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 5

26 ЧЭРВЕНЯ

УСЕ НА ВЫБАРЫ Ў ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БЕЛАРУСКАЙ С.С.Р.!



ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
МЕНСК — 1938

Наш першы кандыдат
у дэпутаты Вярхоўнага Совета
Беларускай ССР



Іосіф Вісарыёнавіч
СТАЛІН

# НАШЫ ПЕРШЫЯ КАНДЫДАТЫ Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР



В. М. МОЛАТАЎ



Л. М. КАГАНОВІЧ



К. Е. ВАРАШЫЛАЎ



М. І. КАЛІНІН

# НАШЫ ПЕРШЫЯ КАНДЫДАТЫ Ў ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР


А. І. МІКАЯН


А. А. АНДРЭЕЎ


Н. І. ЕЖОЎ


А. А. ЖДАНАЎ

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ



ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XII

№ 5
Май 1938 г.

ЗМЕСТ





**Адрас рэдакцыі:**
**Менск, Чырвонаармейская вул.,**
**ЦК КП(б)Б, пакой 7.**
**Тэлефон рэдакцыі па камутатару**
**20.000, даб. 50.**

# *ПРАМОВА таварыша СТАЛІНА*

## *на прыёме ў Крэмлі работнікаў вышэйшай школы 17 мая 1938 года*

ТАВАРЫШЫ!

Дазвольце агаласіць тост за навуку, за яе працвітанне, за здароўе людзей навукі.

За працвітанне навукі, той навукі, якая не адгароджваецца ад народа, не трымае сябе ўдалі ад народа, а гатова служыць народу, гатова перадаць народу ўсе заваяванні навукі, якая абслугоўвае народ не па прымусу, а добраахвотна, з ахвотай (Апладысменты).

За працвітанне навукі, той навукі, якая не дае сваім старым і прызнаным кіраўнікам самазадаволена замыкацца ў шкарлупу жрацоў навукі, у шкарлупу манапалістаў навукі, якая разумее сэнс, значэнне, усясілле саюза старых работнікаў навукі з маладымі работнікамі навукі, якая добраахвотна і ахвотна адчыняе ўсе дзверы навукі маладым сілам нашай краіны і дае ім магчымасць заваяваць вяршыні навукі, якая прызнае, што будучыня належыць моладзі ад навукі (Апладысменты).

За працвітанне навукі, той навукі, людзі якой, разумеючы сілу і значэнне ўстанавіўшыхся ў навуцы традыцый і ўмела выкарыстоўваючы іх у інтарэсах навукі, усё-ж не хочуць быць рабамі гэтых традыцый, якая мае смеласць, рашымасць ламаць старыя традыцыі, нормы, устаноўкі, калі яны становяцца ўстарэлымі, калі яны ператвараюцца ў тормаз для руху наперад, і якая ўмее ствараць новыя традыцыі, новыя нормы, новыя ўстаноўкі (Апладысменты).

Навука ведае ў сваім развіцці нямала мужных людзей, якія ўмелі ламаць старае і ствараць новае, не гледзячы ні на якія перашкоды, наперакор усяму. Такія мужы навукі, як Галілей, Дарвін і многія іншыя,—агульнавядомы. Я хацеў-бы спыніцца на адным з такіх кары-

феяў навукі, які з'яўляецца разам з тым найвялікшым чалавекам сучаснасці. Я маю на ўвазе Леніна, нашага настаўніка, нашага выхавацеля (Апладысменты). Успомніце 1917 год. На падставе навуковага аналіза грамадскага развіцця Расіі, на падставе навуковага аналіза міжнароднага становішча Ленін прышоў тады да вываду, што адзіным выхадам са становішча з'яўляецца перамога соцыялізма ў Расіі. Гэта быў больш чым нечаканы вывад для многіх людзей навукі таго часу. Плеханаў, адзін з выдатных людзей навукі, з пагардай гаварыў тады аб Леніне, сцвярджаючы, што Ленін знаходзіцца «в бреду». Іншыя, не менш вядомыя людзі навукі, сцвярджалі, што «Ленін звар'яцеў», што яго належала-б схаваць кудынебудзь падалей. Супроць Леніна вылі тады ўсе і ўсякія людзі навукі як супроць чалавека, разбураючага навуку. Але Ленін не пабаяўся пайсці супроць цячэння, супроць коснасці. І Ленін перамог (Апладысменты).

Вось вам узор мужа навукі, смела вядучага барацьбу супроць устарэўшай навукі і пракладваючага дарогу для новай навукі.

Бывае і так, што новыя шляхі навукі і тэхнікі пракладваюць часам не агульнавядомыя ў навуцы людзі, а зусім невядомыя ў навуковым свеце людзі, простыя людзі, практыкі, наватары справы. Тут за агульным сталом сядзяць таварышы Стаханаў і Папанін. Людзі, невядомыя ў навуковым свеце, не маючыя вучоных ступеняў, практыкі сваёй справы. Але каму невядома, што Стаханаў і стаханаўцы ў сваёй практычнай рабоце ў галіне прамысловасці апракінулі існуючыя нормы, устаноўленыя вядомымі людзьмі навукі і тэхнікі, як устарэўшыя, і ўвялі новыя нормы, адпавядаючыя патрабаванням сапраўднай навукі і тэхнікі? Каму невядома, што Папанін і папанінцы ў сваёй практычнай рабоце на дрэйфуючай крызе мімаходам, без асобай цяжкасці, апракінулі старое ўяўленне аб Арктыцы, як устарэўшае, і ўстанавілі новае, адпавядаючае патрабаванням сапраўднай навукі? Хто можа адмаўляць, што Стаханаў і Папанін з'яўляюцца наватарамі ў навуцы, людзьмі нашай перадавой навукі?

Вось якія яшчэ бываюць «цуды» у навуцы.

Я гаварыў аб навуцы. Але навука бывае ўсякая. Тая навука, аб якой я гаварыў, называецца ПЕРАДАВОЙ навукай.

За працвітанне нашай перадавой навукі!

За здароўе людзей перадавой навукі!

За здароўе Леніна і ленінізма!

За здароўе Стаханава і стаханаўцаў!

За здароўе Папаніна і папанінцаў! (Апладысменты).

---

# Аб вышэйшай школе

*(Прамова тав. В. М. МОЛАТАВА на Першай усесаюзнай нарадзе работнікаў вышэйшай школы 15 мая г. г.)*

Таварышы, дазвольце перадаць вам, Першай усесаюзнай нарадзе работнікаў вышэйшай школы і ў вашай асобе ўсім работнікам вышэйшай школы і совецкаму студэнцтву, большэвіцкае прывітанне Цэнтральнага Камітэта партыі і Совета Народных Камісараў Саюза. **(Бурныя апладысменты. Раздаюцца воклічы: «Няхай жыве наш вялікі настаўнік таварыш Сталін, ура! Няхай жыве большэвіцкая партыя! Няхай жыве верны саратнік таварыша Сталіна таварыш Молатаў!» Бурныя апладысменты).**

## I. Развіццё вышэйшай асветы ў СССР

Таварышы, наша вышэйшая школа прайшла да гэтага часу вельмі важны перыяд свайго развіцця. Прайшло 20 навучальных год вышэйшай школы пры совецкай уладзе. Прайшло апошняе дзесяцігоддзе, на працягу якога мы зрабілі карэнную перабудову вышэйшай школы.

У 1928 годзе пытанне аб вышэйшай школе ўстала перад намі, як адна з буйнейшых палітычных задач. Гэта стала ясна пасля выкрыцця шахцінскіх шкоднікаў з лагера буржуазных спецыялістаў. Тады выявілася з асобай сілай, як яшчэ наогул слаба совецкая краіна тэхнічнымі сіламі, як яшчэ жывучы буржуазны ўплыў і як раскінута работа замежнай агентуры ў асяроддзі старых спецыялістаў і як мы былі тады бедны кадрамі новых, сапраўды совецкіх спецыялістаў.

Як і ў іншых важных справах, таварыш Сталін быў галоўным ініцыятарам рэарганізацыі ВНУ і ВТНУ на працягу 1928—1929 гг.

Цэнтральны Камітэт большэвіцкай партыі павінен быў ушчыльную заняцца даным пытаннем. У рэзультаце гэтага сетка нашых ВНУ і колькасць навучаючыхся ў іх значна павялічыліся. Тэхнічныя і іншыя ВНУ былі перадаьы наркаматам, непасрэдна зацікаўленым у падрыхтоўцы кадраў. Склад навучаючыхся ў ВНУ значна абнавіўся, у першую чаргу, за лік дзяцей рабочага класа. Удзельная вага вышэйшай школы ў грамадскім жыцці краіны значна паднялася. Вышэйшая школа стала на ногі ў адпаведнасці з новымі патрабаваннямі совецкай дзяржавы.

Ваша нарада сабралася ў момант, калі мы ўжо можам сказаць, што рэарганізацыя ВНУ ў асноўным закончана. ВНУ ў нашай краіне пабудаваны. Справа не толькі ў колькасці ВНУ і ў колькасці навучаючыхся ў іх, справа не толькі ў абноўленых навучальных праграмах, планах і т. п. Рэарганізацыя ВНУ ў асноўным завершана,

завершана ў тым сэнсе, што яны пабудаваны цяпер прыстасоўна да патрабаванняў дзяржавы, будуючай соцыялізм.

Гэта не значыць, што мы ўпаўне задаволены становішчам у галіне вышэйшай асветы, што ў нас няма буйных недахопаў у гэтай справе. Наадварот, аб гэтых недахопах нам яшчэ прыдзецца гаварыць. Але цяперашнія ВНУ гэта ўжо не тыя ВНУ, якія мы мелі ў першыя годы совецкай улады і нават 10 год таму назад. Калі ўзяць у цэлым нашу вышэйшую асвету, нашы вышэйшыя школы, тэхнічныя і ваенныя, педагагічныя і медыцынскія, а таксама іншыя, то мы ўжо маем такую арганізацыю гэтай справы, якая ў асноўным адказвае ўсім важнейшым патрэбнасцям совецкай дзяржавы. Не цяжка ўказаць на многія недахопы і, калі хочаце, на цэлыя правалы ў некаторых галінах нашай вышэйшай асветы. Для таго і склікана Ўсесаюзная нарада работнікаў вышэйшай школы, каб яна дапамагла разгарнуць барацьбу з гэтымі недахопамі па-сапраўднаму, з усёй энергіяй і арганізаванасцю. Ваша задача палегчана тым, што сетка асноўных вышэйшых навучальных устаноў пабудавана, што ўся справа вышэйшай асветы атрымала ўжо дастойны Совецкага Саюза размах і ў нас ёсць усё неабходнае для далейшага развіцця вышэйшай школы, для росквіту вышэйшай асветы.

Параўнайце становішча нашай вышэйшай школы з вышэйшай школай капіталістычных дзяржаў і вы ўбачыце каласальную розніцу ў карысць СССР. Лёсы вышэйшай школы ў капіталістычных дзяржавах і ў Совецкім Саюзе, як і ўсякае іншае буйнае грамадскае з'явішча, адлюстроўваюць карэннае адрозненне ў развіцці двух светаў—капіталістычнага і соцыялістычнага. У краінах капіталізма вышэйшая школа перажывае цяжкую пару крызісу, заняпаду. Іншая справа ў СССР. У нас адваротны малюнак.

Возьмем маючыяся ў друку апошнія даныя аб вышэйшай школе ў капіталістычных краінах. Атрымліваем такі малюнак аб ліку навучаючыхся ў ВНУ: ва Францыі і ў Германіі па 74 тыс., у Італіі—73 тыс., у Вялікабрытаніі (па метраполіі)—51 тыс. Ва ўсіх чатырох так называемых «вялікіх дзяржаў» Еўропы, разам узятых, колькасць навучаючыхся ў ВНУ дасягае 270 тысяч. Дададзім да гэтага, што колькасць навучаючыхся ў ВНУ Японіі складае 146 тысяч. Такім чынам, у Германіі, Італіі, Англіі, Францыі і Японіі, разам узятых, колькасць навучаючыхся ў ВНУ складае некалькі больш 400 тысяч. Параўнайце са становішчам у СССР. Адзін Совецкі Саюз з яго 550 тыс. навучаючыхся ў вышэйшай школе мае студэнтаў больш, чым усе ВНУ вялікіх дзяржаў Еўропы разам з Японіяй. **(Апладысменты).** Мы маем права ганарыцца такім становішчам. Рабочы клас, сялянства і інтэлігенцыя Совецкага Саюза могуць ганарыцца тым, што наша вышэйшая школа стаіць на высокім узроўні развіцця, што рабоча-сялянская дзяржава праяўляе да гэтай справы такія клопаты, якія не па плячу шаноўным буржуазным дзяржавам. **(Апладысменты).**

Вы ведаеце таксама, што для раду буржуазных дзяржаў характэрна, што за апошнія годы колькасць ВНУ і навучаючыхся ў іх не толькі не павялічваецца, а скарачаецца. Вышэйшая школа ў буржуазных краінах не толькі недаступна працоўным, але яна ва многіх выпадках перажывае ўпадак у параўнанні нават з ранейшымі гадамі.

Не гледзячы на гэта, ва ўсіх буржуазных краінах расце беспрацоўе сярод вучоных прафесій. Гэта адносіцца не толькі да Еўропы,

але і да Амерыкі. Ёсць ужо такія галіны інтэлігентнай працы, дзе палова спецыялістаў з вышэйшай асветай астаецца без работы, а зачастую і без забяспечанага кавалка хлеба. Пашукайце-тка ў нас беспрацоўнага вучонага, беспрацоўнага спецыяліста! Калі-б хто-небудзь знайшоў у нас беспрацоўнага вучонага, мы-б яму далі прэмію! **(Апладысменты, смех).** У нас адваротнае становішча. Совецкая вышэйшая школа выпускае цяпер ужо штогод да ста тысяч спецыялістаў, а ў нас усё яшчэ вялікі недахоп у спецыялістах ва многіх галінах работы. У нашых умовах такія рэчы, як «беспрацоўе вучоных прафесій» гучаць проста дзіка.

Гавораць і так, што людзі вучоных прафесій у капіталістычных краінах пакараны цяжкім беспрацоўем за тое, што многія з іх вельмі доўга праяўляюць няздольнасць зразумець рэакцыйнасць і гніласць сучаснага капіталізма. У гэтай заўвазе ёсць зярно праўды. Вучоныя людзі і спецыялісты буржуазнага грамадства—выхадцы з маемных слаёў, з буржуазных і дробна-буржуазных класаў. Ад гэтага грамадства зараз нельга чакаць добрага, перадавога, грамадскага выхавання. Таму буржуазныя і дробна-буржуазныя інтэлігенты нярэдка адзначаюцца няздольнасцю зразумець, што капіталістычны лад ужо аджыў свой век. Многія з іх прадаўжаюць чапляцца за гэты лад, а ён жорстка адплачвае ім ростам беспрацоўя сярод вучоных прафесій. Але калі рабочыя і многія сяляне ў буржуазных краінах усё больш пранікаюцца рэволюцыйным адмаўленнем капіталізма, то па гэтаму шляху немінуча павінна пайсці і ўсё большая частка інтэлігенцыі, у першую чаргу з яе дэмакратычных слаёў.

Капіталізм ужо ва многіх краінах, можна сказаць, дабіўся таго, што ў рабочым класе ён мае свайго непрымірымага ворага. Колькасць незадаволеных расце не толькі сярод рабочых, але і сярод сялян, сярод дробных служачых, сярод саматужнікаў. Колькасць незадаволеных расце і сярод інтэлігентных прафесій—настаўнікаў, урачоў, інжынераў, аграномаў, прафесараў, пісьменнікаў, вучоных. Усё большая колькасць людзей у буржуазных краінах, у тым ліку і сярод выхадцаў з прывілегіраваных слаёў грамадства, з вучоных прафесій, з інтэлігенцыі, пераконваецца ў тым, што капіталізм ужо не здолен забяспечыць развіццё культуры, развіццё навукі, не здолен служыць справе прагрэса. Гэтыя людзі звяртаюць свае ўзрокі ў наш бок. Але мала пераканацца ў няздольнасці капіталізма служыць справе прагрэса, мала і таго, каб зразумець небяспеку фашызма, які параджаецца сучасным гніючым на карню капіталізмам. Трэба яшчэ знайсці дарогу з капіталізма да новага ладу. І вось гэта выклікае цікавасць да Совецкага Саюза, да нашай работы, да нашага культурнага будаўніцтва, да развіцця тэхнікі і навукі ў СССР. Нас вывучаюць, на нашым прыкладзе правяраюць сваю крытыку капіталізма і шляхі пабудовы новага грамадства. Усё гэта накладае на нас адказнасць не толькі перад грамадскай думкай нашай краіны, але і перад грамадскай думкай усяго прагрэсіўнага чалавецтва. **(Бурныя апладысменты).**

## II. Рашаючая задача вышэйшай школы ў нашы дні

На вашай нарадзе многа гаварылася аб недахопах нашай вышэйшай школы. І гэта правільна. Гэтых недахопаў не мала. Разам з ростам нашых патрабаванняў да вышэйшай школы гэтыя неда-

хопы нам становяцца ясней, а гэтыя патрабаванні растуць і будуць расці і далей.

Пабудаваўшы магутную сетку вышэйшых навучальных устаноў у адпаведнасці з гіганцкімі патрабаваннямі дзяржавы, мы яшчэ далёка не навялі належнага парадку ў гэтай справе. За якую-б галіну вышэйшай школы мы ні ўзяліся, мы гэта адчуваем на кожным кроку.

Вазьміце планаванне ў будаўніцтве вышэйшых навучальных устаноў. У нас ёсць значныя галіны народнай гаспадаркі і культуры, якія дрэнна забяспечаны падрыхтоўкай кадраў спецыялістаў, стан падрыхтоўкі нацыянальных кадраў спецыялістаў у радзе рэспублік таксама нездавальняючы. Многае яшчэ недароблена ў гэтай галіне.

Пытанням навучальных планаў і праграм у вышэйшай школе ваша нарада аддала вялікую ўвагу. Гэта было неабходна. Трэба пакончыць з частымі зменамі навучальных планаў і праграм, унесці ўстойлівасць у гэту справу. Разабрацца ва ўсім гэтым, устанавіўшы адпавядаючыя сучасным патрабаванням навучальныя праграмы і пакончыўшы з залішняй, затрудняючай вучобу многапрадметнасцю, значыць—ліквідаваць рад шкодніцкіх агіднасцей, сур'ёзна перашкаджаючых развіццю вышэйшай школы.

Цяпер вазьміце пытанне аб кіруючых кадрах ВНУ. Падбору дырэктараў і прафесарска-выкладчыцкіх кадраў аддавалася ў апошні час нямала ўвагі. Але і ў гэтай галіне многа слабых месц. Мала падабраць, трэба яшчэ кіраваць гэтымі кадрамі. Між тым Галоўныя Упраўленні вышэйшых навучальных устаноў нярэдка працуюць вельмі слаба. Ды і Камітэту вышэйшай школы трэба яшчэ многа папрацаваць над падборам кіруючых кадраў ВНУ і над правільным правядзеннем штатна-акладной сістэмы.

Параўнаўча мала тут гаварылася аб студэнцкіх арганізацыях. Між тым у вышэйшай школе яны граюць важную ролю. Ад іх работы многае залежыць у стварэнні спрыяючых умоў для вучобы, у забеспячэнні свядомай дысцыпліны сярод студэнцтва, у грамадскім выхаванні моладзі. Нельга не адзначыць сказаную на гэтай нарадзе прамову студэнткі Макаравай. Сваім выступленнем, у прыватнасці наконт абыякавых адносін кіраўнікоў вышэйшых навучальных устаноў да ўноў паступаючых у вышэйшую школу, тав. Макарава падкрэсліла, наколькі яшчэ ў нас моцны бюракратызм, бяздушныя адносіны да вучнёўскай моладзі. Яна справядліва таксама абараніла сваю бібліятэчную ВНУ, таму што ў нашай краіне, дзе ў народзе развіліся такія велізарныя патрэбнасці ў кнізе, у ведах, бібліятэчная справа набыла вялікае дзяржаўнае значэнне. Трэба, каб студэнцкія арганізацыі больш давалі аб сабе ведаць у патрэбных выпадках.

Работа Камітэта вышэйшай школы павінна сказацца яшчэ і ў будаўніцтве вышэйшых навучальных устаноў, і ў клопатах аб тэхнічнай базе вышэйшай школы, і ў далейшым паляпшэнні бытавых умоў студэнцтва, і ва многім іншым. Мацней павінны адчуць дапамогу з боку Камітэта і нашы наркаматы. Але ўжо цяпер можна сказаць, што ў параўнанні з першым перыядам работы камітэта, калі да кіраўніцтва прабраліся буржуазныя перараджэнцы-шкоднікі, камітэт запрацаваў па-новаму. **(Апладысменты).**

Можна і трэба гаварыць аб многіх недахопах у вышэйшай школе. Іх сапраўды многа. У дакладах і прамовах на гэтай нарадзе гаварылі аб гэтым. Але зараз неабходна сканцэнтраваць увагу на

галоўным. Трэба прызнаць, што сярод усіх недахопаў вышэйшай школы галоўным у даны момант з'яўляецца **недахоп добрых падручнікаў.** Гэта прызнаюць і прафесары і студэнты. Аб недахопе падручнікаў тут гаварылася нямала. Але трэба гэта пытанне паставіць не побач з іншымі, а ў якасці пытання першаступеннай важнасці.

У нас не мала падручнікаў. Ёсць старыя нядрэнныя падручнікі, ёсць і абноўленыя добрыя падручнікі. Падрыхтоўваецца выданне новых і новых. На 1938 год намечан вялікі план выдання падручнікаў. Але гэта зусім не значыць, што ўказаны план выдання падручнікаў колькі-небудзь сур'ёзна падрыхтаваны. Гэты план трэба падвергнуць праверцы, не зводзячы справу да фармальнага зацвярджэння. Справядліва таксама ўказанне на тое, што нават падрыхтаваныя падручнікі не заўсёды забяспечваюцца своечасовым выданнем. Але галоўнае пытанне ляжыць не ў выдавецкай галіне. Націск неабходна паставіць на падрыхтоўцы, на складанні падручнікаў. Наколькі сур'ёзна пытанне аб падручніках, адпавядаючых нашым цяперашнім патрабаванням, вы ведаеце па прыкладу выдання аднаго падручніка для сярэдняй школы. Складзены прафесарам Шастаковым і яго групай падручнік гісторыі СССР атрымаў, як вядома, не першую, а другую прэмію. Але каб атрымаць гэты падручнік, над ім нямала прышлося папрацаваць і Цэнтральнаму Камітэту ВКП (большэвікоў). **(Апладысменты).**

Каб па-сапраўднаму забяспечыць выданне добрых падручнікаў, трэба прарабіць вельмі вялікую работу. Трэба перш за ўсё ўмела сабраць неабходныя для гэтага навукова-выкладчыцкія сілы. Трэба многа, настойліва і сур'ёзна папрацаваць над іх арганізацыяй па адпаведных галінах. Ажыццявіць правільнае кіраўніцтва гэтай справай, значыць—правесці сапраўды сур'ёзную і вельмі разумную работу.

Нам патрэбен падручнік, адпавядаючы сучасным патрабаванням. Ён павінен быць на ўзроўні сучаснай навукі і зусім даступны навучаючымся па сваёй мове. Ён павінен даць неабходны аб'ём ведаў і разам з тым падрыхтоўваць навучаючагася да яго будучай практычнай дзейнасці. Ён павінен шырока скарыстаць ранейшыя нашы падручнікі і замежныя падручнікі, дзе вельмі многа каштоўнага для вучобы, і разам з тым ён павінен у неабходнай меры адпавядаць задачам ідэйна-палітычнага выхавання моладзі. Вышэйшая школа павінна мець і будзе мець добры савецкі падручнік. **(Апладысменты).**

Што студэнты ў гэтым адчуваюць патрэбу—няма чаго даказваць. Дастаткова сказаць, што не знойдзецца такіх ВНУ, якія былі-б пасапраўднаму забяспечаны добрымі падручнікамі. Студэнты прагнуць атрымаць добры савецкі падручнік. Яны зачакаліся яго. Такі падручнік аблегчыць і ўсю работу прафесуры ВНУ. Без адпаведных падручнікаў нават добрае выкладанне часткова абясцэньваецца, а з гэтым нельга мірыцца. Стаіць пытанне і аб выданні падручнікаў па такіх тэмах, як Сталінская Канстытуцыя, калгаснае будаўніцтва, сацыялістычнае планаванне, народна-гаспадарчы ўчот і інш.

Мы можам цяпер па-сур'ёзнаму паставіць пытанне аб падручніках для вышэйшай школы. У нас ёсць навукова-выкладчыцкія кадры, якія з гонарам справяцца з гэтай вялікай задачай. Прафесары і выкладчыкі, старыя вучоныя і маладыя навуковыя работнікі павінны ўзяцца за гэту справу, як за адну з важнейшых і неадкладных дзяржаўных задач. Мы абавязаны стварыць для гэтага неабходныя ар-



ганізацыйныя прадпасылкі, аблегчыць работу адпаведных аўтараў і аўтарскіх груп. Тут знойдзецца работа для многіх, работа цікавая і выключна каштоўная для совецкай дзяржавы. Можна не сумнявацца, што гэта работа прывядзе да больш сур'ёзнай крытычнай праверкі нашых вучэбных праграм і планаў і паставіць рад новых пытанняў у вышэйшай школе, ды і ў галіне навукі. Пакуль мы зарганізуем выданне гэтых падручнікаў, нам прыдзецца яшчэ многа перавыдаваць старых падручнікаў. Нават тых, якія нас ужо далёка не задавальняюць. Трэба прызнаць, што вышэйшая школа адчувае патрэбу ў новых падручніках, у такіх совецкіх падручніках, якія дадуць ёй моцную базу для далейшага развіцця. Калі ў мінулым большэвікам многа прыходзілася займацца агітацыйнымі брашурамі і рэзалюцыямі, то цяпер нашы задачы пасклададаней, і няхай лепш будзе паменш рэзалюцый, але пабольш добрых совецкіх падручнікаў. **(Апладысменты).**

Калі ў гэтым пытанні ваша нарада дасць належны штуршок, яна зробіць вялікую справу. Нельга забываць аб многіх недахопах у вышэйшай школе, але трэба аддаць адказ, у чым тут заключаецца галоўны недахоп. Тады нам будзе ясна, што тут **рашаючая задача** заключаецца ў тым, каб **забяспечыць вышэйшую школу добрымі падручнікамі**, дастойнымі нашай вялікай справы, справы соцыялізма. Тады мы безумоўна ўзнімем нашу вышэйшую школу на новую, больш высокую ступень, і яна яшчэ лепш заблішчыць сваімі новымі поспехамі. **(Апладысменты).**

## III. Значэнне ідэйна-палітычнага выхавання

Чаму мы, большэвікі, надаем такое вялікае значэнне ідэйна-палітычнаму выхаванню? Чаму? Таму, што размах нашай справы, размах справы соцыялізма, патрабуе гэтага. Размах нашай справы настолькі вялікі, правадзімая совецкай уладай перабудова жыцця ўносіць такія карэнныя змены, што ў нашых умовах нельга замыкацца толькі ў штодзенныя справы і бягучыя патрэбы, а неабходна свядома адносіцца да генеральнага шляху нашага развіцця, да гістарычных падзей, удзельнікамі якіх мы з'яўляемся. Мы, большэвікі, лічым, што верным компасам у гістарычных падзеях можа служыць ленінізм, які раскрывае іх сапраўдную сутнасць. Авалодаць ленінізмам—у гэтым важнейшая задача работнікаў вышэйшай школы, у гэтым важнейшая задача совецкага студэнцтва.

Каб паясніць сваю мысль, я спынюся на тым, як ленінізм разумее задачу пераходу ад капіталізма да соцыялізма. Ленінізм вучыць, што соцыялізм можна пабудаваць толькі з таго матэрыялу, які пакінуў нам капіталізм, што соцыялізм можна пабудаваць рукамі не нейкіх там штучна вырашчаных па-за капіталістычным грамадствам выхаваных, «чысценькіх» праведнікаў-соцыялістаў, якіх у жыцці няма і не можа існаваць, а рукамі тых людзей, якія існуюць, з іх сапраўднымі недахопамі і дастоінствамі, якія выраслі і выхоўваліся ў нетрах самога капіталістычнага грамадства. Аб вялікім значэнні гэтых ленінскіх мыслей нам гавораць усё новыя і новыя факты нашага часу. Таму я працытую тут адно з выдатных выказванняў В. І. Леніна па гэтаму пытанню. Бяру артыкул Леніна «Поспехі і труднасці Совецкай улады», напісаны ў сакавіку 1919 года.

Вось што пісаў тут Ленін:

«Старыя соцыялісты-утапісты ваабражалі, што соцыялізм можна пабудаваць з другімі людзьмі, што яны спачатку выхаваюць прыгожанькіх, чысценькіх, дасканала абучаных людзей і будуць будаваць з іх соцыялізм. Мы заўсёды смяяліся і гаварылі, што гэта кукальная ігра, што гэта забава кісейных паненак ад соцыялізма, але не сур'ёзная палітыка.

Мы хочам пабудаваць соцыялізм з тых людзей, якія выхаваны капіталізмам, ім сапсаваны, разбэшчаны, але затое ім і загартаваны ў барацьбе. Ёсць пролетарыі, якія загартаваны так, што здольны пераносіць у тысячу разоў большыя афяры, чым любая армія; ёсць дзесяткі мільёнаў прыгнечаных сялян, цёмных, раскіданых, але здольных, калі пролетарыят павядзе ўмелую тактыку, вакол яго аб'яднацца ў барацьбе. І затым ёсць спецыялісты навукі, тэхнікі, усе наскрозь прасякнутыя буржуазным светасузіраннем, ёсць ваенныя спецыялісты, якія выхаваліся ў буржуазных умовах,—і добра яшчэ, калі ў буржуазных, а то ў памешчыцкіх, у палачных, у прыгонніцкіх. Што датычыць народнай гаспадаркі, то ўсе аграномы, інжынеры, настаўнікі—усе яны браліся з маёмнага класа; не з паветра яны ўпалі! Немаёмны пролетарый ад станка і селянін ад сахі прайсці універсітэта не маглі ні пры цару Нікалаю, ні пры рэспубліканскім прэзідэнце Вільсоне. Навука і тэхніка—для багатых, для маёмных; капіталізм дае культуру толькі для меншасці. А мы павінны пабудаваць соцыялізм з гэтай культуры. Іншага матэрыялу ў нас няма. Мы хочам будаваць соцыялізм неадкладна з таго матэрыялу, які нам пакінуў капіталізм з учора на сёння, цяпер-жа, а не з тых людзей, якія ў парніках будуць прыгатоўлены, калі забаўляцца гэтай пабасенкай. У нас ёсць буржуазныя спецыялісты, і больш нічога няма. У нас няма іншых цаглін, нам будаваць няма з чаго. Соцыялізм павінен перамагчы, і мы, соцыялісты і комуністы, павінны на справе даказаць, што мы здольны пабудаваць соцыялізм з гэтых цаглін, з гэтага матэрыялу, пабудаваць соцыялістычнае грамадства з пролетарыяў, якія культурай карысталіся ў мізэрнай колькасці, і з буржуазных спецыялістаў.

Калі вы не пабудуеце комуністычнага грамадства з гэтага матэрыялу, тады вы пустыя фразёры, балбатуны.

Вось як пытанне пастаўлена гістарычнай спадчынай сусветнага капіталізма! Вось тая труднасць, якая стала перад намі канкрэтна, калі мы ўзялі ўладу, калі мы атрымалі совецкі апарат!

Гэта адна палова задачы, і гэта большая палова задачы. Совецкі апарат значыць, што працоўныя аб'яднаны так, каб вагой свайго масавага аб'яднання раздавіць капіталізм. Яны яго і раздавілі. Але ад раздаўленага капіталізма сыт не будзеш. Трэба ўзяць усю культуру, якую капіталізм пакінуў, і з яе пабудаваць соцыялізм. Трэба ўзяць усю навуку, тэхніку, усе веды, мастацтва. Без гэтага мы жыццё комуністычнага грамадства пабудаваць не можам. А гэта навука, тэхніка, мастацтва—у руках спецыялістаў і ў іх галавах.

Так пастаўлена задача ва ўсіх галінах—задача супярэчлівая, як супярэчлівы ўвесь капіталізм, найцяжэйшая, але выканаль-

ная. Не таму, што мы выхаваем чысценькіх комуністычных спецыялістаў год праз дваццаць: першае пакаленне комуністаў без плямы і папроку; не, выбачце, нам трэба ўсё наладзіць цяпер, не праз дваццаць год, а праз два месяцы, каб змагацца супроць буржуазіі, супроць буржуазнай навукі і тэхнікі ўсяго свету. Тут мы павінны перамагчы. Масавай вагой сваёй прымусіць буржуазных спецыялістаў служыць нам—цяжка, але можна; і калі мы гэта зробім, мы пераможам».

Вы бачыце, што Ленін з самага пачатку зусім акрэслена ставіў пытанне аб тым, як іменна, і з якога іменна матэрыялу можна пабудаваць соцыялізм, і вы бачыце, як мы ўжо далёка прасунуліся па гэтаму шляху. Ён жорстка высмейваў разважанні на тэму аб тым, што для будаўніцтва соцыялізма спачатку трэба выхаваць «прыгожанькіх, чысценькіх, дасканала абучаных людзей», «людзей, якія ў парніках будуць прыгатоўлены». Апракідваючы гэтыя разважанні едкай насмешкай, ён гаварыў: «Мы хочам пабудаваць соцыялізм з тых людзей, якія выхаваны капіталізмам, ім сапсаваны, разбэшчаны, але затое ім і загартаваны ў барацьбе». Ён указваў на тое, што ў капіталістычным грамадстве побач з буржуазіяй і іншымі панамі становішча існуюць пролетарыі, з якіх капіталізм выкоўвае гераічную армію змагароў за соцыялізм і якія пры ўмелай тактыцы могуць павесці за сабой мільёны сялян і дробнага гарадскога люда. Але ён указваў таксама і на тое, што гэтага недастаткова, што неабходна ўключыць у справу будаўніцтва соцыялізма, які ідзе на змену капіталістычнаму грамадству, інжынераў, настаўнікаў, аграномаў і іншых інтэлігентаў, якія вышлі з маёмных класаў, выхаваны ў буржуазным духу. Ленін указваў, што без прыцягнення буржуазных спецыялістаў нельга прыступіць да будаўніцтва соцыялізма. Ён ужо тады гаварыў: «У нас няма іншых цаглін, нам будаваць няма з чаго. Соцыялізм павінен перамагчы, і мы, соцыялісты і комуністы, павінны на справе даказаць, што мы здольны пабудаваць соцыялізм з гэтых цаглін, з гэтага матэрыялу, пабудаваць соцыялістычнае грамадства з пролетарыяў, якія культурай карысталіся ў мізэрнай колькасці, і з буржуазных спецыялістаў». Ленін без абінякоў гаварыў: «Трэба ўзяць усю культуру, якую капіталізм пакінуў, і з яе пабудаваць соцыялізм. Трэба ўзяць усю навуку, тэхніку, усе веды, мастацтва. Без гэтага мы жыццё комуністычнага грамадства пабудаваць не можам». Ленін указаў шлях, якім стварыць новае з старога, як скарыстаць стары матэрыял у інтарэсах новага грамадства. Мы ішлі па гэтаму шляху, па шляху ленінізма, і вы бачыце: соцыялізм перамог. **(Бурныя апладысменты).**

Але, каб будаваць з гэтага матэрыялу новае грамадства, трэба ясна бачыць мэту і шляхі яе ажыццяўлення. Абмежаваўшы свой кругазор прывычнымі ў буржуазным грамадстве паняццямі і штодзеннымі дробнымі клопатамі, нельга зразумець пастаўленай гісторыяй перад людзьмі нашай эпохі карэннай задачы, задачы перабудовы і абнаўлення грамадства. Без засваення такога вучэння як марксізм-ленінізм, асвятляючага генеральны шлях гістарычнага развіцця, раскрываючага сэнс сучасных падзей, нельга быць свядомым удзельнікам гістарычных падзей нашага часу.

Гэта не значыць, што дастаткова запісацца ў комуністы, наляпіўшы на сябе адпаведны ярлык, і гэтым атрымаеш права на імя перадавога чалавека нашай эпохі. Мы цяпер добра ведаем, што

пад комуністаў, пад абаронцаў ленінізма, падфарбоўваюцца і злейшыя нашы ворагі. Таго-сяго з такіх людзей падзеі нават на час захапляюць і ўзнімаюць высока. Але фальш рана ці позна ўсёроўна выявіцца. У вялікіх падзеях нашай эпохі часам на паверхню выплываюць, граючы пэўную ролю, і розныя лоўкія людзі, накідваючыя на сябе маску спачування соцыялізму, а на самой справе не верачыя ў тое, што можна жыць без падачак ад паноў з тугой машной, без прыслужніцтва буржуазіі.

Пасля падзей апошняга часу мы добра ведаем, што сярод гэтых прымазаўшыхся да совецкай улады і большэвіцкай партыі людзей было нямала старых і новых платных агентаў буржуазіі, агентаў белагвардзейшчыны і замежных разведак. Трэба прызнаць, што мы праявілі недапушчальную даверлівасць да многіх з іх, што мы, нават змагаючыся з імі, занадта доўга лічылі іх ідэйнымі людзьмі, прадстаўляючымі палітычную плынь. На самой справе ўсе гэтыя трацкісты, бухарынцы і ім падобныя даўно ўжо ператварыліся ў банду шпікаў і забойц, шкоднікаў і дыверсантаў. У гэтым асяроддзі аказалася нямала мацёрых агентаў царскай ахранкі, растленных правакатараў і здраднікаў, за мізэрную мзду выконваўшых гнуснейшыя даручэнні белагвардзейскіх і замежных разведак, старанна поўзаўшых перад імі на бруху. Гэтым панам прышлося выкручвацца ў двурушніцтве, прышлося па-змяінаму выкручвацца ў здрадніцтве. Усе гэтыя паны, імёны якіх вам вядомы па апошніх судовых працэсах, паказаны цяпер перад усім светам у іх сапраўдным выглядзе, без масак, і вы ведаеце, што больш агіднага відовішча, чым гэты чалавечы хлам, здаецца, нельга ўявіць.

Ды гэта-ж і ёсць тыя людзі, якіх старое грамадства, пануючыя класы капіталізма хацелі-б мець у нашым асяроддзі, каб разлагаць нашу справу, каб падрываць яе поспехі. Гэта людзі, праз якіх буржуазія яшчэ імкнулася і імкнецца вярнуцца зноў да ўлады, расчысціць зноў месца для свайто панавання. Уся гэта зграя забойцаў, шпікаў і шкоднікаў была апошняй стаўкай буржуазіі. На іх падрыўную і разлагаючую двурушніцкую работу разлічвалі белагвардзейцы і меншавікі, эсэры і замежныя шпіёны-разведчыкі. Нічога ідэйна больш высокага, маральна больш моцнага ў старога грамадства для барацьбы з соцыялізмам не асталося. Усе гэтыя трацкісты і бухарынцы разам з іх падручнымі ўсякага роду—нішто іншае як атрэб'е буржуазнага грамадства, яго агентура, прадстаўляюць ідэйны і маральны воблік гэтага грамадства, калі яшчэ дазвольна тут гаварыць аб якіх-небудзь ідэях, аб якой-небудзь маралі. Мы добра ведаем цяпер, хто гэтыя людзі, прастытуіраваныя да канца. Яны ў сваім агідным аголеным абліччы адлюстроўваюць ідэйна-маральны воблік гніючых, дажываючых свой век буржуазных класаў. Мы і адправілі іх туды, куды гісторыя ў не такім аддаленым будучым адправіць, мабыць, і само капіталістычнае грамадства. **(Бурныя апладысменты).**

Ленін указваў на тое, што пабудова соцыялізма з матэрыялу, пакінутага капіталізмам, задача супярэчлівая. Старое не ўступае дарогу новаму без бою, без упартай барацьбы. З другога боку, новае, а значыць і новыя людзі, могуць вырасці і загартавацца толькі ў барацьбе з гэтым старым, смела расчышчаючы дарогу соцыялізму. Каб забяспечыць магчымасць разабрацца ў гэтых супярэчнасцях, знайсці правільны шлях і ісці разам з перадавымі людзьмі нашага

часу, патрэбна пастаянная работа па ідэйна-палітычнаму выхаванню мас, па ідэйна-палітычнаму выхаванню моладзі, а таксама саміх кіруючых кадраў і спецыялістаў усіх галін. Тады не прыдзецца доўга чакаць таго моманту, калі мы разгромім да канца ўсіх і ўсякіх буржуазных перараджэнцаў, як-бы яны ні двурушнічалі, ні злаўчаліся, ні выкручваліся. **(Апладысменты).** У нас быстра расце і мацнее апора нашай справы ў народных масах. Апора нашай справы—нашы стаханаўцы і ўдарнікі заводаў, фабрык і калгасаў, героі працы, тэхнікі і навукі, героі ваеннай справы, авіяцыі і Арктыкі, растучая ў сваіх ведах і грамадскім вопыце совецкая моладзь. **(Апладысменты).** Перад няўхільным ростам гэтых сіл патугі нашых ворагаў бяссільны. Жаданне свядома ўдзельнічаць у радах будаўнікоў новага грамадства і чэсна служыць да канца сваёй радзіме ўсё больш захватвае людзей усіх пакаленняў нашай краіны.

Урокі апошніх палітычных выкрываўчых судовых працэсаў вельмі істотны. Цяпер мы асабліва добра запомнілі ўказанне таварыша Сталіна аб тым, як небяспечна ў наш час палітычная бесклапотнасць. Папоўніліся і нашы ўяўленні ў пытанні аб дзяржаве, у пытанні аб дзяржаве наогул і аб соцыялістычнай дзяржаве, якая знаходзіцца ў знешне капіталістычным акружэнні, у прыватнасці. Больш чым калі-б там ні было мы зразумелі палітычную ролю шпіёнскіх разведак замежных дзяржаў і разам з тым неабходнасць сваёй уласнай добрай разведкі. Нашы ўяўленні ў пытанні аб дзяржаве сталі яшчэ больш канкрэтнымі, і гэта палегчыць нам больш правільнае скарыстанне апарата дзяржавы ў справе будаўніцтва новага, комуністычнага, грамадства.

З барацьбы з ворагамі народа мы вышлі ні ў якім разе не аслабленымі. Наадварот, мы яшчэ больш умацаваліся і яшчэ больш упэўнены ў поўнай перамозе нашай справы. **(Апладысменты).**

Як адбіліся гэтыя падзеі на нашай практычнай рабоце, можна меркаваць хоць-бы па такому прыкладу. Я маю на ўвазе работу прамысловасці ў гэтым годзе. За 1937 год, у рэзультаце выкрыцця шкодніцтва, нам прышлося правесці значную змену кадраў у прамысловасці. Замест многіх, якія празмерна кічыліся сваім доўгім вопытам, а на справе палітычна перарадзіліся і заблыталіся ў шкодніцтве, «комуністаў» і інжынераў-спецыялістаў, нам прышлося за апошнія месяцы вылучыць многа новых людзей, галоўным чынам, з нявідных раней практыкаў і маладых спецыялістаў. У некаторых галінах прамысловасці прышлося замяняць цэлы слой палітычна прагніўшых работнікаў. Цяпер можна ўжо меркаваць аб першых выніках гэтага абнаўлення кіруючых кадраў у прамысловасці.

Як вядома, 30 лістапада 1937 года была апублікавана вытворчая праграма прамысловасці на 1938 год. Гэта праграма прадугледжвала рост прадукцыі прамысловасці ў гэтым годзе на 15,3 проц. супроць мінулага года. Пры цяперашніх маштабах нашай прамысловасці такі рост прамысловай прадукцыі за адзін год прадстаўляе аграмадную велічыню, не гаворачы ўжо аб тым, што гэта ярка падкрэслівае перавагу соцыялістычнага ладу перад капіталістычным, дзе зноў разгортваецца глыбокі эканамічны крызіс. Ці спраўляюцца з пастаўленай задачай нашы цяперашнія гаспадарчыя кадры?

Параўнаем вытворчую прадукцыю студзеня гэтага года са студзенем мінулага года. Аказваецца, у студзені мы мелі павелічэнне прадукцыі супроць студзеня 1937 года на 5,5 проц. Мы пайшлі на-

перад, але павелічэнне супроць мінулага года была яшчэ параўнальна невялікае. Люты гэтага года даў павелічэнне прамысловай прадукцыі на 9 проц. супроць лютага мінулага года. Гэтым быў зроблен далейшы крок наперад. Сакавік супроць сакавіка мінулага года даў павелічэнне прамысловай прадукцыі ўжо на 12 проц. Нарастанне тэмпаў росту прамысловасці тут дастаткова відаць. Цяпер мы маем даныя і аб красавіку месяцы. Красавік даў павелічэнне прамысловай прадукцыі супроць красавіка мінулага года на 15 проц. **(Бурныя апладысменты).**

Як бачыце, наша прамысловасць увайшла ўжо ў русло выканання гадавога плана. Гэта не значыць, што ў нас няма адсталых і дрэнна працуючых галін прамысловасці. Ні аб якім супакаенні на дасягнутым узроўні не можа быць і гутаркі. Але вам зразумела, што такі ўздым і такое нарастанне тэмпаў росту прамысловасці можа адбывацца толькі на здаровай аснове. На нашых вачах новыя кадры авалодваюць кіраўніцтвам прамысловасцю. Змена палітычна праваліўшыхся кіраўнікоў, расчыстка гаспадарчага апарата ад ворагаў-шкоднікаў ні ў якім разе не аслабіла прамысловасць. Новыя кадры падбіраюць ужо да рук даручаную справу, паспяхова спраўляючыся з ёю. Гэта паказчык таго, як выраслі нашы гаспадарчыя кадры, якія рэзервы мы ўжо маем і як упэўнена мы можам рухацца наперад, арганізуючы правільнае вылучэнне новых сіл, правільнае выхаванне і кіраўніцтва імі. Падобныя поспехі сталі магчымымі дзякуючы таму, што ўвесь рабочы клас і ўся маса працоўных нашай краіны быстра расце ў сваёй грамадскай свядомасці і ў сваім уменні арганізаваць працу. У нас усе дзеці ахоплены пачатковай школай, і быстра расце сярэдняя асвета. Тое, што сярэдняя школа стала даступна для мільёнаў юнакоў і дзяўчат, мае велізарнае значэнне. Тое, што вышэйшая школа зрабіла за апошнія гады ў падрыхтоўцы новых кадраў спецыялістаў, пачынае ўжо даваць свае сур'ёзныя плады. Мы павінны даражыць кожным старым спецыялістам і берагчы іх, але галоўнай сілай сярод кваліфікаваных спецыялістаў сталі ўжо спецыялісты новага пакалення, лік якіх расце з кожным днём.

Наколькі ў культурных адносінах выраслі ўжо народы Савецкага Саюза, наколькі выраслі і кадры нашых спецыялістаў, мы бачым на кожным кроку па фактах, якія адносяцца да нашага гаспадарчага фронта. Мы ўсяляк імкнуліся і імкнемся прадоўжыць перыяд мірнай перадышкі—на гэта заўсёды былі накіраваны намаганні савецкай улады і бальшэвіцкай партыі, намаганні нашага вялікага кіраўніка і правадыра народаў таварыша Сталіна. **(Бурныя апладысменты. Усе ўстаюць).**

Мы не дарма пражылі гэтыя годы мірнай перадышкі. Ужо нямала зроблена ў справе падрыхтоўкі новых савецкіх кадраў спецыялістаў. У гэтай галіне цяпер рашае справу ідэйна-палітычнае выхаванне. Яшчэ год таму назад таварыш Сталін гаварыў:

«Цяпер вузлавым пытаннем для нас з'яўляецца не ліквідацыя тэхнічнай адсталасці нашых кадраў, бо яна ў асноўным ужо ліквідавана, а ліквідацыя палітычнай бесклапотнасці і палітычнай даверлівасці да шкоднікаў, выпадкова атрымаўшых партыйны білет».

Каб рухацца ўпэўнена наперад, каб забяспечыць росквіт сіл нашай радзімы, мы павінны памятаць аб гэтых указаннях таварыша Сталіна, памятаць аб значэнні ідэйна-палітычнага выхавання ў наш час.

Калісьці пра перамогу немцаў ва франка-прускай вайне 70—71 гг. гаварылі, што ў гэтай перамозе рашаючую ролю адыграла школа, настаўнік. Сапраўды, у той перыяд Германія зрабіла нямала, каб падняць асвету ў сваёй краіне. І гэта, побач з другімі момантамі, адыграла вельмі буйную ролю ў перамозе немцаў над французамі. У нашай краіне за апошнія годы праведзена нябачаная па размерах і значэнню работа па ўзняццю культуры, па развіццю народнай асветы, па стварэнню кадраў высока-кваліфікаваных спецыялістаў. Наша краіна ўжо не тая, якой яна была ў першых баях супроць замежных інтэрвентаў у 1918—20 гг. І калі нават тады, поўразбураная вайной, культурна адсталая і зմораная краіна справілася з шырока арганізаваным знешнім нападам, то цяпер, калі матэрыяльны і культурны ўзровень народа значна ўзняўся, калі палітычна і маральна народы Савецкага Саюза небывала згуртаваны пад нашым большэвіцкім сцягам, для поўнага поспеху нашай справы дастаткова таго, каб кожны грамадзянін Савецкага Саюза выканаў свой доўг, доўг чэснага сына свайго народа. **(Бурныя апладысменты).**

Як трэба разумець палітычныя задачы сучаснага моманту, аб гэтым нядаўна зноў напомніў таварыш Сталін у пісьме да комсамольца Іванова. Ён пісаў:

«Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку...»

Каб выканаць гэту задачу, наша інтэлігенцыя, работнікі вышэйшай школы, студэнты і студэнткі павінны памятаць аб стаячай перад імі задачы: авалодаць ленінізмам, зрабіцца ў большэвіцкім сэнсе свядомымі ўдзельнікамі вялікай справы будаўніцтва соцыялізма. Вам, работнікам вышэйшай школы, дано перадавое месца не толькі ў радах культурных работнікаў, але і ва ўсіх галінах работы нашай дзяржавы. Вам многа дано, і таму вялікая ваша адказнасць перад народам. **(Апладысменты).**

Усёй вашай рабоце і рабоце кожнага з вас у паасобку забяспечана магутнае падтрыманне дзяржавы. Вы знойдзеце моцнае і высокае пачуццё задаволення ў сваёй рабоце, ідучы ўнагу са сваім народам, большэвіцкі сцяг якога высока развяваўся на нядаўніх выбарах у Вярхоўны Совет Саюза і зноў рэе ў вышыні на выбарах у Вярхоўныя Советы Совецкіх Рэспублік! **(Бурныя апладысменты, воклічы ў гонар правадыра народаў, любімага друга вучоных, студэнтаў, прафесараў і выкладчыкаў—таварыша Сталіна і ў гонар таварыша Молатава).**

# Таварышы І. В. СТАЛІН, В. М. МОЛАТАЎ, К. Е. ВАРАШЫЛАЎ, Н. І. ЕЖОЎ

## далі згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР

Акруговы прадвыбарчы сход рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, служачых, студэнтаў, навуковых работнікаў, чырвонаармейцаў, камандзіраў і палітработнікаў Прамысловай выбарчай акругі № 166 горада Менска ў колькасці 8.000 выбаршчыкаў, выказваючы волю і жаданне ўсіх выбаршчыкаў, 19 мая аднадушна намеціў кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР правадыра народаў таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча СТАЛІНА.

Акруговы прадвыбарчы сход звярнуўся да Іосіфа Вісарыёнавіча СТАЛІНА з просьбаю даць згоду балатыравацца па гэтай выбарчай акрузе ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР.

23 мая выбаршчыкі атрымалі паведамленне аб тым, што таварыш Іосіф Вісарыёнавіч СТАЛІН даў згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Прамысловай выбарчай акрузе горада Менска.

Выбаршчыкі Дзержынскай выбарчай акругі № 168 горада Менска на прадвыбарчым сходзе 19 мая ў колькасці 7.000 чалавек звярнуліся да таварыша Вячэслава Міхайлавіча МОЛАТАВА з просьбаю даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Дзержынскай выбарчай акрузе горада Менска.

23 мая выбаршчыкі Дзержынскай выбарчай акругі горада Менска атрымалі згоду Старшыні Совета Народных Камісараў Саюза ССР таварыша Вячэслава Міхайлавіча МОЛАТАВА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Дзержынскай выбарчай акрузе горада Менска.

Выбаршчыкі Молатаўскай выбарчай акругі № 161 горада Менска на сваім прадвыбарчым сходзе ў колькасці 10 тысяч чалавек 19 мая звярнуліся да Народнага Камісара абароны

Саюза ССР, маршала Совецкага Саюза, дэпутата Вярхоўнага Совета СССР ад Менскай выбарчай акругі Клімента Ефрэмавіча ВАРАШЫЛАВА з просьбаю даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Молатаўскай выбарчай акрузе горада Менска.

23 мая выбаршчыкі Молатаўскай выбарчай акругі горада Менска атрымалі згоду таварыша Клімента Ефрэмавіча ВАРАШЫЛАВА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Молатаўскай выбарчай акрузе.

Выбаршчыкі Ленінскай выбарчай акругі № 48 горада Віцебска—рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», шчацінна-шчотачнага камбіната імя Куйбышэва, студэнты і выкладчыкі Ветзоаінстытута—на сваіх прадвыбарчых сходах звярнуліся да Народнага Камісара ўнутраных спраў і воднага транспарта СССР, Генеральнага Камісара дзяржаўнай безапаснасці Нікалая Іванавіча ЕЖОВА з просьбаю даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе горада Віцебска.

23 мая выбаршчыкі Ленінскай выбарчай акругі № 48 горада Віцебска атрымалі згоду таварыша Нікалая Іванавіча ЕЖОВА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе горада Віцебска.

Па атрыманні паведамлення таварышоў І. В. СТАЛІНА, В. М. МОЛАТАВА, К. Е. ВАРАШЫЛАВА, Н. І. ЕЖОВА адбыліся пасяджэнні акруговых выбарчых камісій.

Акруговая выбарчая камісія Прамысловай выбарчай акругі № 166 горада Менска зарэгістравала кандыдатуру таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча СТАЛІНА.

Акруговая выбарчая камісія Дзержынскай выбарчай акругі № 168 горада Менска зарэгістравала кандыдатуру таварыша Вячэслава Міхайлавіча МОЛАТАВА.

Акруговая выбарчая камісія Молатаўскай выбарчай акругі № 161 горада Менска зарэгістравала кандыдатуру таварыша Клімента Ефрэмавіча ВАРАШЫЛАВА.

Акруговая выбарчая камісія Ленінскай выбарчай акругі № 48 горада Віцебска зарэгістравала кандыдатуру таварыша Нікалая Іванавіча ЕЖОВА.

# Пастанова акруговай выбарчай камісіі

## Прамысловай выбарчай акругі № 166 горада Менска па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша

# *ІОСІФА ВІСАРЫЁНАВІЧА СТАЛІНА*

Разгледзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», пастанавіла:

На падставе артыкула 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Прамысловай выбарчай акрузе № 166 г. Менска вылучаную аб'яднаным прадвыбарчым сходам рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых машынабудаўнічага завода імя Варашылава, скурзавода «Большэвік», кандзіцерскай фабрыкі «Комунарка», швейнай фабрыкі імя Крупскай, завода «Чырвоная зара», аўтарамонтнай станцыі, МГЭС-2, спіртзавода, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якім прысутнічала 8.000 чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, нараджэння 1879 года, члена ВКП(б), Генеральнага Сакратара ЦК ВКП(б), пражываючага ў г. Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» уключыць кандыдатуру таварыша Сталіна Іосіфа Вісарыёнавіча ў выбарчы бюлетэнь па Прамысловай выбарчай акрузе № 166 горада Менска.

У адпаведнасці з артыкулам 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі В. ДРАБЫШЭЎСКІ.
Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Х. РАКСІН.
Сакратар акруговай выбарчай камісіі Л. ТУРЫК.
Члены камісіі: Е. ГОРАГЛЯД, П. РАПАПОРТ, М. ХВАШЧЭЎСКАЯ, Д. НАХМАНОВІЧ, А. КРОТАЎ, К. СІДАРОВІЧ.

# ПАСТАНОВА

**акруговай выбарчай камісіі Дзержынскай выбарчай акругі № 168 горада Менска па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша**

## *ВЯЧЭСЛАВА МІХАЙЛАВІЧА МОЛАТАВА*

Разгледзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», пастанавіла:

На падставе арт. 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Дзержынскай выбарчай акрузе № 168 горада Менска, выстаўленую аб'яднаным прадвыбарчым сходам рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых фабрыкі «Кастрычнік», завода імя Мяснікова, завода «Ударнік», завода «Пролетарый», малочнага камбіната, шчотачнай фабрыкі імя Крупскай, хімзавода, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якім прысутнічала 7.000 чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Вячэслава Міхайлавіча Молатава, нараджэння 1890 года, члена ВКП(б), Старшыню Совета Народных Камісараў Саюза ССР, пражываючага ў горадзе Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» уключыць кандыдатуру таварыша Молатава Вячэслава Міхайлавіча ў выбарчы бюлетэнь па Дзержынскай выбарчай акрузе № 168 горада Менска.

У адпаведнасці з артыкулам 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі Н. КАШТАНАЎ.
Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі
Е. НІКІФАРАВА.
Сакратар акруговай выбарчай камісіі М. ЛІТВІНАВА.
Члены камісіі: Г. МАЛЕЎ, А. ЗЕЛЕНКА, З. ЛІХАЧОВА, А. СЯРГЕЕНКА, Ш. ЦОЙР, П. ШЭЛАГІНАЎ.

# ПАСТАНОВА

**акруговай выбарчай камісіі Молатаўскай выбарчай акругі № 161 горада Менска па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша**

## *КЛІМЕНТА ЕФРЭМАВІЧА ВАРАШЫЛАВА*

Разгледзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», пастанавіла:

На падставе арт. 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Молатаўскай выбарчай акрузе № 161 горада Менска выстаўленую аб'яднаным прадвыбарчым сходам рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых друкарні імя Сталіна, дрэваапрацоўчага завода імя Молатава, завода ланцугоў Галя, трамвайнага парка, работнікаў Клінічнага гарадка і інш., а таксама байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якім прысутнічала 10 тысяч чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Клімента Ефрэмавіча Варашылава, нараджэння 1881 года, члена ВКП(б), Народнага Камісара абароны Саюза ССР, першага маршала Совецкага Саюза, пражываючага ў гор. Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» уключыць кандыдатуру таварыша Варашылава Клімента Ефрэмавіча ў выбарчы бюлетэнь па Молатаўскай выбарчай акрузе № 161 горада Менска.

У адпаведнасці з артыкулам 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі Г. МАНДРЫК.
Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі Ф. ПАПОЎ.
Сакратар акруговай выбарчай камісіі А. УС.
Члены камісіі: С. КАЦОВІЧ, Е. ПЕЎЗНЕР, П. КАРАЧУН, А. МАРКАЎ, Я. РЭДЗЬКО, Л. КОГАН.

# ПАСТАНОВА

**акруговай выбарчай камісіі Ленінскай выбарчай акругі № 48 горада Віцебска па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша**

## *НІКАЛАЯ ІВАНАВІЧА ЕЖОВА*

Разгледзеўшы паступіўшыя ў акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», пастанавіла:

На падставе арт. 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе № 48 вылучаную агульнымі сходамі рабочых, інжынераў і тэхнікаў, служачых фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», шчаціннага камбіната імя Куйбышэва, ігольнага завода, цагельных заводаў, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Чырвонай Арміі, студэнтаў і педагагічнага персанала Ветзоаінстытута, на якіх прысутнічала 9.000 чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР Нікалая Іванавіча Ежова, 1895 года нараджэння, члена ВКП(б), Наркома ўнутраных спраў і воднага транспарту Саюза ССР, пражываючага ў гор. Маскве.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» уключыць кандыдатуру тав. Ежова Нікалая Іванавіча ў выбарчы бюлетэнь па Ленінскай выбарчай акрузе № 48 горада Віцебска.

У адпаведнасці з артыкулам 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня акруговай выбарчай камісіі КЕДРАЎ.
Намеснік старшыні акруговай выбарчай камісіі МАСАРСКІ.
Сакратар ПІРАЦІНСКАЯ.
Члены камісіі: ЛЕВІТ, ХАДАРЭНКА, МІЛЬЧЫН, МІРКІНА, САМУЙЛАВА, МАЦКЕВІЧ.

# Таварышы Л. М. КАГАНОВІЧ, М. І. КАЛІНІН, А. І МІКАЯН А. А. АНДРЭЕЎ, А. А. ЖДАНАЎ

## далі згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР

Выбаршчыкі Сталінскай выбарчай акругі №260 горада Гомеля—рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі і служачыя шклозавода імя Сталіна, камбіната «Спартак», шынарамонтнага завода ў колькасці 6.000 чалавек—на сваіх прадвыбарчых сходах звярнуліся да Народнага Камісара цяжкай прамысловасці і Шляхоў Зносін СССР таварыша Лазара Майсеевіча КАГАНОВІЧА з просьбай даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Сталінскай выбарчай акрузе горада Гомеля.

25 мая выбаршчыкі Сталінскай выбарчай акругі атрымалі згоду таварыша Лазара Майсеевіча КАГАНОВІЧА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Сталінскай выбарчай акрузе горада Гомеля.

Выбаршчыкі Куйбышэўскай выбарчай акругі № 87 горада Магілева—рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя шоўкавай фабрыкі імя Куйбышэва, гарбарнага завода імя Сталіна, байцы і камандзіры Н-скай часці—на сваіх прадвыбарчых сходах звярнуліся да Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета Саюза ССР таварыша Міхаіла Іванавіча КАЛІНІНА з просьбай даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Куйбышэўскай выбарчай акрузе горада Магілева.

25 мая выбаршчыкі Куйбышэўскай выбарчай акругі горада Магілева атрымалі згоду таварыша Міхаіла Іванавіча КАЛІНІНА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Куйбышэўскай выбарчай акрузе горада Магілева.

Выбаршчыкі Мазырскай гарадской выбарчай акругі №219—рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя заводаў «Чырвоны Кастрычнік», «Пралетарый», фабрыкі «Профінтэрн», шпаларэзнага завода «Пхоў», студэнты і выкладчыкі Мазырскага педвучылішча ў колькасці 3.500 чалавек—на сваіх прадвыбарчых сходах звярнуліся да таварыша Анастаса Іванавіча МІКАЯНА з просьбай даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Мазырскай гарадской выбарчай акрузе.

25 мая выбаршчыкі Мазырскай гарадской выбарчай акругі атрымалі згоду таварыша Анастаса Іванавіча МІКАЯНА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Мазырскай гарадской выбарчай акрузе.

Выбаршчыкі Ленінскай выбарчай акругі № 261 горада Гомеля—рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя завода «Рухавік рэвалюцыі», млынавага камбіната, крупазавода, завода стандартных дамоў, аўтараммайстэрняў, студэнты і выкладчыкі аўтатэхнікума, фінансавага тэхнікума і інш. прадпрыемстваў на сваіх прадвыбарчых сходах звярнуліся да таварыша Андрэя Андрэевіча АНДРЭЕВА з просьбай даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе горада Гомеля.

25 мая выбаршчыкі Ленінскай выбарчай акругі атрымалі згоду таварыша Андрэя Андрэевіча АНДРЭЕВА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе горада Гомеля.

Выбаршчыкі Валадарскай выбарчай акругі № 47 горада Віцебска—рабочыя, інжынерна-тэхнічныя работнікі, служачыя фабрыкі «Прагрэс», Белкомунбудтрэста, студэнты і выкладчыкі медінстытута, педагагічнага вучылішча, байцы, камандзіры і палітработнікі часцей Чырвонай Арміі ў колькасці 5.070 чалавек—на сваіх прадвыбарчых сходах звярнуліся да таварыша Андрэя Александравіча ЖДАНАВА з просьбай даць згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Валадарскай выбарчай акрузе горада Віцебска.

25 мая выбаршчыкі Валадарскай выбарчай акругі горада Віцебска атрымалі згоду таварыша Андрэя Александравіча ЖДАНАВА балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Валадарскай выбарчай акрузе горада Віцебска.

Па атрыманні паведамлення таварышаў Л. М. КАГАНОВІЧА, М. І. КАЛІНІНА, А. І. МІКАЯНА, А. А. АНДРЭЕВА, А. А. ЖДАНАВА адбыліся нарады акруговых выбарчых камісій.

Акруговая выбарчая камісія Сталінскай выбарчай акругі № 260 горада Гомеля зарэгістравала кандыдатуру таварыша Лазара Майсеевіча КАГАНОВІЧА.

Акруговая выбарчая камісія Куйбышэўскай выбарчай акругі № 87 горада Магілева зарэгістравала кандыдатуру таварыша Міхаіла Іванавіча КАЛІНІНА.

Акруговая выбарчая камісія Мазырскай гарадской выбарчай акругі № 219 горада Мазыра зарэгістравала кандыдатуру таварыша Анастаса Іванавіча МІКАЯНА.

Акруговая выбарчая камісія Ленінскай выбарчай акругі № 261 горада Гомеля зарэгістравала кандыдатуру таварыша Андрэя Андрэевіча АНДРЭЕВА.

Акруговая выбарчая камісія Валадарскай выбарчай акругі № 47 горада Віцебска зарэгістравала кандыдатуру таварыша Андрэя Александравіча ЖДАНАВА.

---

# ПАСТАНОВА

**акруговай выбарчай камісіі Сталінскай выбарчай акругі № 260 г. Гомеля па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша**

## Лазара Майсеевіча КАГАНОВІЧА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў Акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, Акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», пастанавіла:

На падставе артыкула 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР па Сталінскай выбарчай акрузе № 260 г. Гомеля выстаўленую аб'яднанымі прадвыбарчымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых шклозавода імя Сталіна, камбіната «Спартак», фабрыкі імя Клары Цэткін, клінкернага завода, аўчынна-шубнага завода, інструментальнага завода, на якіх прысутнічала 6 тысяч чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР тав. Лазара Майсеевіча Кагановіча, 1893 года нараджэння, члена ВКП(б), народнага камісара цяжкай прамысловасці і шляхоў зносін СССР, пражываючага ў гор. Масква—Крэмль.

На падставе артыкула 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» уключыць кандыдатуру тав. Лазара Майсеевіча Кагановіча ў выбарчы бюлетэнь па Сталінскай выбарчай акрузе № 260 г. Гомеля.

У адпаведнасці з артыкулам 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня Акруговай выбарчай камісіі Г. ЯРЛЫКОЎ.
Намеснік старшыні А. МАСЮКОВА.
Сакратар Ф. ВІГДАРОВІЧ.
Члены камісіі: М. ПЛОТКІН, П. КУНЦЭВІЧ, М. ПРУДНІКАВА, Л. ПЛОТКІН, В. ПАІНА, М. АХРЭМЧЫК.

# ПАСТАНОВА

**акруговай выбарчай камісіі Куйбышэўскай выбарчай акругі № 87 горада Магілева па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша**

## Міхаіла Іванавіча КАЛІНІНА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў Акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, Акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», пастанавіла:

На падставе арт. 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Куйбышэўскай выбарчай акрузе № 87 горада Магілева выстаўленую прадвыбарчымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых шоўкавай фабрыкі імя Куйбышэва, скурзавода імя Сталіна, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей, на якіх прысутнічалі 4.500 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Міхаіла Іванавіча Калініна, нараджэння 1875 года, члена ВКП(б), Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, пражываючага ў горадзе Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» уключыць кандыдатуру таварыша Калініна Міхаіла Іванавіча ў выбарчы бюлетэнь па Куйбышэўскай выбарчай акрузе № 87 горада Магілева.

У адпаведнасці з арт. 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня Акруговай выбарчай камісіі Х. САГАЛ.
Намеснік старшыні І. ВАЙМАН.
Сакратар камісіі А. КАРАСОВА.
Члены камісіі: В. ІВАНОВА, Н. МІТРАФАНАЎ, М. СЕЛЕДЦОВА, Г. РЫСІНА, К. КАРНЕЕЎ.

# ПАСТАНОВА

**акруговай выбарчай камісіі Мазырскай гарадской выбарчай акругі № 219 па выбарах у Вярхоўны Совет БССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР таварыша**

## Анастаса Іванавіча МІКАЯНА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў Акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, Акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з арт. арт. 48, 49, 50, 51 і 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР», пастанавіла:

На падставе арт. 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Мазырскай гарадской выбарчай акрузе № 219 вылучаную агульнымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых мазырскага фанернага завода «Чырвоны Кастрычнік», лесазавода «Пролетарый», фабрыкі «Профінтэрн», шпаларэзнага завода «Пхоў», настаўнікамі і студэнтамі Мазырскага педагагічнага вучылішча, на якіх прысутнічала 3.500 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР Анастаса Іванавіча Мікаяна, нараджэння 1895 года, члена ВКП(б), члена Палітбюро ЦК ВКП(б), намесніка старшыні Совета Народных Камісараў Саюза ССР, пражываючага ў горадзе Маскве.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» уключыць кандыдатуру тав. Мікаяна Анастаса Іванавіча ў выбарчы бюлетэнь па Мазырскай гарадской выбарчай акрузе № 219 горада Мазыра.

У адпаведнасці з арт. 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР» пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня Мазырскай Акруговай выбарчай камісіі
М. Я. ДУБІНСКІ.
Намеснік старшыні І. Л. ГЛУШАК.
Сакратар І. Д. НЕСЦЯРОВІЧ.
Члены камісіі: А. І. ВАЛОНКІН, А. П. ЕСЮТКІН, Н. А. ДАНІЛАЎ, А. Я. САВІЛАВА, І. С. МАЙСЕЕНКА, Ш. І. БЕРМАН.

# ПАСТАНОВА

**акруговай выбарчай камісіі Ленінскай выбарчай акругі № 261 горада Гомеля па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша**

## Андрэя Андрэевіча АНДРЭЕВА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў Акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», пастанавіла:

На падставе арт. 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе № 261, выстаўленую агульнымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых завода «Рухавік рэволюцыі», крупзавода, млынкамбіната, завода стандартных дамоў, лекавых устаноў, Днепра-Дзвінскага рачнога параходства, палітасветных устаноў, на якіх прысутнічала 7.000 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша Андрэя Андрэевіча Андрэева, нараджэння 1895 года, члена ВКП(б), Сакратара ЦК ВКП(б), пражываючага ў горадзе Масква—Крэмль.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», уключыць кандыдатуру таварыша Андрэева Андрэя Андрэевіча ў выбарчы бюлетэнь па Ленінскай выбарчай акрузе № 261 горада Гомеля.

У адпаведнасці з арт. 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР» пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня Акруговай выбарчай камісіі С. А. ФІЛІПЕК.
Намеснік старшыні А. К. СТАРАСЦЕНКА.
Сакратар Е. М. ГРЫВНІНА.
Члены камісіі: А. І. ХІМАКОЎ, Б. Э. ЛАБКОЎСКІ, Ф. Л. КРАЕЎСКІ, Ф. Ш. КАЗЛОВА, П. С. КАВАЛЁЎ, І. А. ДАНІЛАЎ.

# ПАСТАНОВА

## акруговай выбарчай камісіі Валадарскай выбарчай акругі № 47 горада Віцебска па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР аб рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР таварыша

## Андрэя Александравіча ЖДАНАВА

Разглядзеўшы паступіўшыя ў Акруговую выбарчую камісію дакументы аб вылучэнні кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР, Акруговая выбарчая камісія, устанавіўшы поўную адпаведнасць прадстаўленых дакументаў з артыкуламі 48, 49, 50, 51, 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», пастанавіла:

На падставе арт. 52 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», зарэгістраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР па Валадарскай выбарчай акрузе №47 горада Віцебска, выстаўленую агульнымі сходамі рабочых, інжынераў, тэхнікаў і служачых фабрыкі «Прагрэс», Белкомунбудтрэста, студэнтаў, настаўнікаў і навуковых работнікаў медінстытута, байцоў, камандзіраў і палітработнікаў Н-скіх часцей Віцебскага гарнізона, а таксама студэнтаў і выкладчыкаў педвучылішча, педрабфака і хімтэхнікума, на якіх прысутнічала 5.070 чалавек,—кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР таварыша Андрэя Александравіча Жданава, 1896 года нараджэння, члена ВКП(б), Сакратара ЦК ВКП(б) і Ленінградскага абкома і гаркома ВКП(б), пражываючага ў горадзе Ленінградзе.

На падставе арт. 57 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», уключыць кандыдатуру таварыша Жданава Андрэя Александравіча ў выбарчы бюлетэнь па Валадарскай выбарчай акрузе №47 горада Віцебска.

У адпаведнасці з арт. 56 «Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР», пастанову апублікаваць для ўсеагульнага ведама.

Старшыня Акруговай выбарчай камісіі І. МАТВЕЕЎ.
Намеснік старшыні Н. ВУЛЬФОВІЧ.
Сакратар Е. МАРОЗАВА.
Члены камісіі: К. РЫБАКОЎ, Ф. ШЭЙКІН, Е. КАЗЛОЎ, А. БАБАШЫНСКАЯ, Э. ЛІДОЎСКІ.

# Нястомна павышаць большэвіцкую пільнасць

10 чэрвеня адкрываецца XVII з'езд Комуністычнай Партыі (большэвікоў) Беларусі. Гэты з'езд падвядзе вынікі велізарнай работы, якую правялі за справаздачны перыяд партарганізацыі і КП(б)Б у цэлым, на аснове разгорнутай крытыкі і самакрытыкі выявіць усе дапушчаныя недахопы і памылкі і намеціць шляхі для іх хутчэйшага знішчэння.

Выконваючы гістарычныя рашэнні лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанні таварыша Сталіна аб недахопах партыйнай работы і мерах ліквідацыі трацкісцкіх і іншых двурушнікаў, наша партыя атрымала найвялікшую перамогу на ўсіх участках будаўніцтва соцыялізма.

Узначаліўшы паварот у палітычным жыцці краіны на аснове Сталінскай Канстытуцыі, наша партыя яшчэ больш умацавала блок комуністаў і беспартыйных і дабілася бліскучых поспехаў у выбарах у Вярхоўны Совет СССР.

Блок комуністаў і беспартыйных моцна ўвайшоў у жыццё і быт совецкага народа. Гэты блок выкаван у штурмавыя дні Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, ён сцэментован кроўю лепшых сыноў совецкага народа ў годы грамадзянскай вайны, ён загартован у агні гіганцкай будоўлі за годы сталінскіх пяцігодак.

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР на аснове сталінскага блока комуністаў і беспартыйных паказалі, як ніколі, маральна-палітычнае адзінства народаў нашага вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных рэспублік. Вялікая дружба яшчэ шчыльней згуртавала народы краіны Советаў вакол вялікай большэвіцкай партыі, вакол нашага мудрага правадыра, настаўніка і друга—таварыша Сталіна.

Пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), пад кіраўніцтвам і пры штодзённай дапамозе таварыша Сталіна большэвікі Совецкай Беларусі, разам з усёй партыяй, правялі велізарную работу па разгрому і знішчэнню заклятых ворагаў народа—трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашысцкіх разведак.

Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі, разграміўшы прэзрэнную зграю трацкісцка-бухарынскіх бандытаў і буржуазных нацыяналістаў, пры дапамозе ЦК ВКП(б) і нястомных клопатах таварыша Сталіна, правяла вялікую работу па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ва ўсіх галінах гаспадарчага, совецкага і партыйнага будаўніцтва.

Рад звенняў нашага партыйнага, гаспадарчага і совецкага апаратаў, пачынаючы ад цэнтральных устаноў і канчаючы нізавымі арганізацыямі, ворагі народа свядома засмечвалі ўсякімі прахадзімцамі, жулікамі, людзьмі, якія не ўнушалі палітычнага давер'я. Даволі сказаць, што са складу членаў і кандыдатаў ЦК КП(б)Б, выбраных на

мінулым з'ездзе, са складу першых і другіх сакратароў гаркомаў і райкомаў партыі, сакратароў парткомаў пярвічных партарганізацый вялікая колькасць выкрыта як ворагі народа.

Уся гэта банда прадажных фашысцкіх псоў была выкрыта, разгромлена і знішчана толькі дзякуючы вострай пільнасці Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і таварыша Сталіна, дзякуючы рэвалюцыйнай пільнасці нашых слаўных чэкістаў на чале са сталінскім наркомам Н. І. Ежовым.

У барацьбе супроць ворагаў народа большэвікі Беларусі пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) і таварыша Сталіна прайшлі вялікую школу большэвіцкага выхавання.

Рашуча ачышчаючы партыйныя, совецкія і гаспадарчыя арганізацыі ад ворагаў народа, ад прахадзімцаў і жулікаў, ЦК КП(б)Б, партыйныя і совецкія арганізацыі, на аснове рашэнняў лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна, прарабілі вялікую работу па ўмацаванню партыйнага, гаспадарчага і совецкага апарата, рашуча вылучаючы маладыя кадры з ліку лепшых людзей, партыйных і непартыйных большэвікоў, да канца адданых справе партыі Леніна—Сталіна.

За справаздачны перыяд на кіруючую абласную і раённую партыйную работу вылучана 486 чалавек, у тым ліку 115 сакратароў гаркомаў і райкомаў, 184 інструктары, 31 заг. аддзеламі прапаганды і агітацыі. Па нацыянальнасці 60,5 проц. усіх вылучаных—беларусы.

Умацаваны новымі работнікамі апараты СНК і ЦВК БССР, наркаматы рэспублікі і гаспадарчыя органы за лік праверавых людзей, праявіўшых сябе на нізавой рабоце, як здольныя арганізатары, адданыя справе партыі Леніна—Сталіна.

Вялікая колькасць людзей вылучана на раённую і нізавую совецкую работу. Старшынямі райвыканкомаў вылучана 73 чал. Гэтыя людзі прыйшлі, галоўным чынам, з нізавой совецкай і гаспадарчай работы.

Кіруючыся ўказаннямі ЦК ВКП(б), партыйныя арганізацыі нашай рэспублікі за справаздачны перыяд вылучылі на кіруючую работу 5449 чал. беспартыйных. Толькі пасля рашэння ЦК ВКП(б) ад 4 сакавіка г.г. вылучана беспартыйных 1326 чал., з іх: на абласную работу—132 чал., на гарадскую і раённую—219 чал., старшынямі і сакратарамі сельсоветаў—164 чал., старшынямі калгасаў—484 чал., старшынямі сельпо—68 чалавек і т. д.

Праведзена вялікая работа па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы.

Ворагі народа, засмечваючы нашы прамысловыя прадпрыемствы варожымі элементамі, зрывалі выкананне вытворчых планаў, праводзілі дыверсіі і шкодніцтва, свядома разваливалі планаванне ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы, тармазілі развіццё такіх галін прамысловасці, як энергетычная, будматар'ялаў і паліва.

Асабліва нашкодзілі ворагі народа ў сельскай гаспадарцы. Яны імкнуліся развалiць калгаснае будаўніцтва, разарыць працоўныя масы сялянства.

На аснове рашэння ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 2 жніўня 1937 г. аб дапамозе беларускаму сялянству, партыйныя і совецкія арганізацыі правялі вялікую работу па ліквідацыі шкодніцтва ў сельскай гаспадарцы і ў першую чаргу па ўмацаванню яе кіруючымі кадрамі.

Усяго за перыяд ад жніўня 1937 г. па май 1938 г. вылучана на кіруючую работу ў сельскай гаспадарцы 485 чал., у тым ліку дырэктарамі МТС—132 чал., намеснікамі дырэктароў па палітчастцы—180 чалавек, загадчыкамі райза—63 чал., дырэктарамі соўгасаў—14 чал., упаўнаважанымі камітэта загатовак—44 чал. Сярод вылучаных на работу ў сельскую гаспадарку—беларусаў 289 чалавек.

Адведзена 159.285 калгасным гаспадаркам 22.261 га прысядзібных участкаў і звернуты 48.848 калгасным гаспадаркам прысядзібныя ўчасткі, раней шкодніцкі адрэзаныя ў іх ворагамі народа.

Перадана лясоў і мясцовых угоддзяў 385.538 га. Акрамя таго 7.089 калгасаў атрымалі 92.189 га сенакосу, пасьбішчаў і вырубак лясных угоддзяў.

Ліквідаваны шкодніцкі арганізаваныя на калгасных землях 181 соўгас. Іх зямля ў колькасці 254.242 га перадана калгасам. На базе ліквідаваных соўгасаў створана 60 новых МТС.

Выконваючы рашэнне студзеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб разглядзе апеляцый, ЦК КП(б)Б правёў вялікую работу па выпраўленню памылак, дапушчаных партарганізацыямі пры выключэнні комуністаў з партыі. Усяго разгледжана 5.366 апеляцый. 3.226 чалавек адноўлены ў партыі.

Адначасова з разглядам апеляцый партарганізацыі палепшылі работу па прыёму новых членаў і кандыдатаў у партыю. Калі за перыяд з 1 лістапада 1936 г. па 1 студзеня 1938 г. у члены партыі было прынята ўсяго 284 чалавекі і ў кандыдаты 212 чал., то за 4 месяцы 1938 г. прынята 589 чалавек у члены партыі і 961 чалавек у кандыдаты, з іх 1250 чалавек, якія састаяць у комсамоле.

Ворагі народа з былога кіраўніцтва ЦК КП(б)Б і цэлага раду раённых і гарадскіх арганізацый многа нашкодзілі ў партыйным будаўніцтве. Засмечваючы кіруючыя органы партарганізацый варожымі элементамі, яны ўсямерна імкнуліся разваліць партыйную работу і ў першую чаргу па ідэйна-палітычнаму выхаванню комуністаў. Гэты важнейшы ўчастак унутрыпартыйнай работы быў асабліва засмечан варожымі элементамі, жулікамі і прахадзімцамі, ідэалагічна няўстойлівымі элементамі.

Пасля выкрыцця ворагаў народа з былога кіраўніцтва ЦК КП(б)Б, партыйныя арганізацыі па-большэвіцку ўзяліся за ліквідацыю вынікаў шкодніцтва ў партыйнай прапагандзе і агітацыі, умацоўваючы гэты важнейшы ўчастак праверанымі, найбольш здольнымі партыйнымі прапагандысцкімі кадрамі.

Лозунг таварыша Сталіна аб аўладанні большэвізмам патрабуе ад усёй нашай партыі, ад кожнай партыйнай арганізацыі, ад кожнага партыйнага кіраўніка рашучага палепшання ўсёй ідэйна-палітычнай работы, палітычнага выхавання комуністаў і ў першую чаргу партыйнага актыва.

Яшчэ на XVII з'ездзе ВКП(б) таварыш Сталін ясна ўказаў:

«Нашы задачы ў галіне ідэйна-палітычнай работы:

1) Узняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;
2) Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;
3) Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;
4) Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;
5) Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;

6) Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней» *).

Гэта ўказанне таварыша Сталіна патрабуе ад КП(б)Б у цэлым, ад кожнай яе партарганізацыі штодзённага палепшання ідэйнага выхавання нашага партыйнага актыва, асабістага кіраўніцтва справай партыйнай прапаганды.

ЦК КП(б) Беларусі, ліквідуючы вынікі шкодніцтва ў галіне ідэйна-палітычнай работы, умацаваў цэлы рад звенняў, вылучыўшы на гэты ўчастак новыя кадры. На прапагандысцкую кіруючую работу вылучана 455 чал., у тым ліку загадчыкамі аддзелаў прапаганды і агітацыі гаркомаў і райкомаў партыі 36 чал., раённымі прапагандыстамі 26 чал., загадчыкамі парткабінетаў 32 чал.

Некаторыя дасягненні мы маем у палепшанні складу прапагандысцкіх кадраў: 769 прапагандыстаў, або 42 проц.,—гэта кіруючыя партыйныя работнікі (сакратары райкомаў, заг. аддзеламі, інструктары райкомаў і сакратары парткомаў).

Але трэба прама сказаць, што цэлы рад гаркомаў і райкомаў партыі, аддзел Партпрапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б маюць яшчэ агромныя недахопы ў галіне кіраўніцтва прапагандай.

У першую чаргу дрэнна пастаўлена справа вылучэння і падбору прапагандысцкіх кадраў. Яшчэ да гэтага часу не падабраны 73 штатныя прапагандысты і 17 загадчыкаў парткабінетамі. Толькі недастатковай увагай да справы можна растлумачыць той факт, што ў Менскім гаркоме партыі цэлы год «падбіраюць» і не могуць знайсці загадчыка аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі. І гэта пад бокам у ЦК КП(б)Б і яго аддзела Партпрапаганды і агітацыі. Толькі безадказнасцю некаторых партыйных кіраўнікоў можна вытлумачыць той факт, што 5.600 комуністаў у рэспубліцы ні ў якіх партыйных школах не навучаюцца.

Партарганізацыі і іх кіраўнікі павінны зараз-жа рашуча ўзяцца за выпраўленне недахопаў у справе прапаганды і агітацыі. Ачышчаючы гэты важны ўчастак ад варожых элементаў і маральна няўстойлівых людзей, смялей вылучаць маладыя, правераныя кадры, рашуча паляпшаючы справу падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі прапагандыстаў.

Асаблівую ўвагу неабходна зараз звярнуць на шырокае разгортванне і палепшанне агітацыйна-масавай работы сярод насельніцтва. Трэба ўлічыць, што да выбараў у Вярхоўны Совет БССР засталіся лічаныя дні. Не марудзячы ні хвіліны, трэба як мага шырэй разгарнуць агітацыю за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, падцягнуць адстаючыя ўчасткі, лепш выкарыстаць накоплены велізарны вопыт агітацыйна-масавай работы з тым, каб арганізаваць стопроцантную яўку выбаршчыкаў і забяспечыць новую перамогу магутнага сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

Агромная работа па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, па ачышчэнню радоў партыі ад ворагаў народа, жулікаў і кар'ерыстаў з'явілася сур'ёзнай школай ідэйна-палітычнага выхавання большэвіцкіх кадраў, адтачыла астрыё большэвіцкай пільнасці і непрымірымасці да ворагаў народа. КП(б)Б прыходзіць да свайго XVII з'езда як ніколі згуртаваная, адзіная, гатовая рашуча і беззаветна змагацца да канца за справу партыі Леніна—Сталіна.

*) „Пытанні ленінізма", стар. 589, выд. X.

Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі прыходзіць да свайго з'езда з вялікімі дасягненнямі. Але было-б памылкова думаць, што ўсё ўжо зроблена і можна супакоіцца. Памятаючы ўказанне таварыша Сталіна аб тым, што мы не можам супакойвацца на дасягнутым, партыйныя арганізацыі з яшчэ большай сілай і рашучасцю павінны ўзяцца за далейшае знішчэнне памылак і недахопаў у рабоце.

Мы не можам таксама забываць і аб тым, што, хоць варожыя гнёзды разгромлены і знішчаны, але нямала заклятых ворагаў соцыялізма, контррэволюцыянераў з трацкісцка-бухарынскага і буржуазна-нацыяналістычнага лагера, подлых падонкаў усёй гэтай бандыцкай погані ўкрылася. Азлобленыя поспехамі соцыялізма, яны маскуюцца і выбіраюць самыя агідныя сродкі і спосабы для сваёй варожай работы.

Трэба заўсёды памятаць указанне таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, аб засылаемых ў нашу краіну шпіёнах, дыверсантах, тэрарыстах і іншых фашысцкіх лазутчыках.

> «Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку» **(Сталін).**

Гэта сур'ёзнейшае ўказанне таварыша Сталіна асабліва моцна павінны памятаць большэвікі Беларусі—баявога фарпоста нашай вялікай соцыялістычнай радзімы на яе заходніх рубяжах.

Улічваючы ўрокі і памылкі мінулай работы, кожная партыйная арганізацыя цяпер, як ніколі, павінна ўзняць большэвіцкую пільнасць, выхоўваць кожнага комуніста так, каб ён здолеў распазнаць ворага, пад якой-бы маскай вораг ні скрываўся, мабілізаваць найшырэйшыя масы працоўных на павышэнне рэволюцыйнай пільнасці, выхоўваць у іх пачуцце савецкага патрыятызма, пачуцце нянавісці да ворагаў народа.

XVII з'езд КП(б) Беларусі падвядзе вынікі ўсёй работы парторганізацый, намеціць шляхі далейшай барацьбы па ліквідацыі вынікаў шкодніцтва, вызначыць задачы па ўздыму партыйна-палітычнай работы і выбера Цэнтральны Камітэт—свой кіруючы орган—з лепшых сыноў, выпрабаваных у барацьбе з ворагамі народа і здольных да канца абараняць справу партыі Леніна—Сталіна.

Большэвіцкае вырашэнне ўсіх пытанняў, якія будуць абмяркоўвацца на партыйным з'ездзе, яшчэ вышэй узніме боездольнасць партыйных радоў, павысіць рэволюцыйную пільнасць, ідэйнае і палітычнае выхаванне членаў і кандыдатаў партыі, яшчэ больш згуртуе комуністаў і шырокія працоўныя масы вакол сталінскага Цэнтральнага Камітэта і правадыра працоўных усяго свету—вялікага генія чалавецтва—таварыша Сталіна.

**А. Волкаў**
Выконваючы абавязкі першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі

# Беларуская ССР напярэдадні выбараў

Вялікі гонар і давер'е аказаў беларускаму народу любімы Сталін і яго верныя саратнікі таварышы Молатаў, Кагановіч, Варашылаў, Калінін, Мікаян, Андрэеў, Ежоў, Жданаў, даўшыя згоду балатыравацца ў Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. У гістарычны дзень—26 чэрвеня—беларускі народ, як і ўсе народы нашага Вялікага Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, яшчэ раз прадэманструе сваю згуртаванасць, бязмежную любоў і адданасць справе партыі Леніна—Сталіна, найвялікшую і бязмежную любоў да нашага правадыра, бацькі і друга—таварыша Сталіна.

З найвялікшым уздымам і палітычнай актыўнасцю працоўных разгарнулася зараз выбарчая кампанія па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР. Партыйныя, комсамольскія, совецкія, профсаюзныя і іншыя грамадскія арганізацыі ўзбагачаны вялікім вопытам агітацыйна-прапагандысцкай і арганізацыйнай работы.

У перыяд выбарчай кампаніі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР ва ўсіх нашых арганізацыях выраслі выдатныя кадры большэвіцкіх агітатараў і арганізатараў з партыйных і непартыйных большэвікоў, якія палка і праўдзіва нясуць у найшырэйшыя масы працоўных большэвіцкае слова, ярка і маляўніча расказваюць аб выдатных перамогах сусветна-гістарычнага значэння, атрыманых нашай вялікай совецкай краінай пад кіраўніцтвам партыі, пад кіраўніцтвам нашага вялікага таварыша Сталіна, аб найвялікшых перамогах ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

На выбарах у Вярхоўны Совет СССР беларускі народ, роўна, як і ўсе народы, насяляючыя нашу цудоўную і неабдымную радзіму, аддаў свае галасы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных, за адданых партыі Леніна—Сталіна людзей.

Працоўныя нашай рэспублікі паслалі ў Вярхоўны Совет СССР сваіх лепшых сыноў і дачок, вялікіх патрыётаў нашай соцыялістычнай радзімы.

97,4 проц. усіх выбаршчыкаў удзельнічала на выбарах па ўсёй Беларускай ССР, а ў Менску, дзе выбіраўся лепшы сын большэвіцкай партыі, верны саратнік вялікага Сталіна—Клімент Ефрэмавіч Варашылаў, у галасаванні ўдзельнічала 99,7 проц. выбаршчыкаў.

І зараз на фабрыках і заводах, у калгасах і соўгасах, ва ўсіх установах і арганізацыях—усюды совецкія людзі на прадвыбарчых сходах, мітынгах выказваюць думкі і пачуцці народа, ганарацца найвялікшымі перамогамі ў нашай квітнеючай краіне.

Прадвыбарчыя сходы—яркая дэманстрацыя яднання совецкага народа, яго маральна-палітычнага адзінства, згуртаванасці вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол вялікага настаўніка, правадыра і друга—таварыша Сталіна.

Беларуская ССР—роўная сярод роўных брацкіх рэспублік—ідзе да выбараў у Вярхоўны Совет рэспублікі з агромнымі дасягненнямі ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

У рэзультаце геніяльнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, пры агромнай дапамозе рускага рабочага класа, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і дзякуючы нястомнай рабоце ЦК ВКП(б) і Саюзнага Ўрада і таварышоў Сталіна І. В. і Молатава В. М.—наша Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка за годы совецкай улады і асабліва за годы сталінскіх пяцігодак стала непазнаваемай. Тым больш непазнаваемай стала яна ў параўнанні з мінулым, калі Беларусь па сутнасці была калоніяй царскай Расіі.

Толькі ў 1937 годзе валавая прадукцыя прамысловасці склала 2.100 мільёнаў рублёў, а ў 1913 г. яна складала ўсяго толькі 89 мільёнаў рублёў.

У трэцяй пяцігодцы валавая прадукцыя прамысловасці складзе больш 5 мільярдаў рублёў.

Прамысловасць дарэволюцыйнай Беларусі займала толькі 0,88 проц. усёй прамысловасці старой царскай Расіі, а ўжо ў 1936 г. удзельная вага прамысловасці БССР складала 2,5 проц. у адносінах да прамысловасці СССР.

Гарады Совецкай Беларусі—Менск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Бабруйск, Орша і іншыя—за годы сталінскіх пяцігодак ператварыліся ў буйныя прамысловыя і транспартныя цэнтры рэспублікі.

За годы існавання нашай рэспублікі мы дабіліся такіх перамог, якія не могуць не выклікаць пачуцця найвялікшай законнай гордасці за сваю любімую радзіму, за комуністычную партыю, за вялікага Сталіна. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна наша рэспубліка перабудавала ў корані сваю эканоміку, культуру і быт.

За годы сталінскіх пяцігодак уведзены ў строй і рэканструяваны такія заводы, як менскі завод імя Варашылава, завод імя Кірава і іншыя. На тэтых заводах выпрацоўваюцца складаныя машыны і абсталяванне. У Гомелі пабудован буйнейшы завод сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва. За другую пяцігодку асвоены і выпускаюцца новыя віды машын для сельскай гаспадаркі: ільнатрапалкі, канавакапальнікі, плугі балотныя. Пабудован буйны механізаваны гомельскі шклозавод імя Сталіна, магілеўская фабрыка штучнага валакна. Пабудован буйнейшы ў СССР Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат.

Вырасла ў Беларусі і свая тарфяная прамысловасць, якой у нас раней не было. Цяпер у нас працуе многа тарфяных заводаў, якія забяспечваюць электрастанцыі і заводы палівам. На Асінаўскіх балотах вырасла магутная электрастанцыя імя Сталіна. У 97 раз павялічылася, у параўнанні з даваенным узроўнем, выпрацоўка электраэнергіі ў Беларусі.

За годы сталінскіх пяцігодак у Беларусі развілася і створана швейная, трыкатажная, харчовая прамысловасць. Рост соцыялістычнай індустрыі суправаджаўся выключна вялікім ростам рабочага класа. Колькасць рабочых і служачых вырасла з 302,5 тыс. у 1927 годзе да 625 тыс. чалавек у 1936 г.—рост у 2,1 раза.

На сацыялістычных прадпрыемствах выраслі выдатныя стаханаўцы, якія паказваюць узоры ў рабоце, рухаюць новую тэхніку наперад. У рэзультаце развіцця стаханаўскага руху ў БССР дасягнуты вялікія поспехі і ў павышэнні прадукцыйнасці працы. За адзін 1936 год—першы стаханаўскі год—прырост выпрацоўкі рабочага буйнай прамысловасці БССР у параўнанні з мінулым годам склаў у абсалютных лічбах 1.152 руб. Гэты прырост утрая перавышае прырост выпрацоўкі рабочага ў першыя два гады другой пяцігодкі, г. зн. да ўзнікнення стаханаўскага руху.

Палепшыўся матар'яльны дабрабыт працоўных. З 1922 г. па 1936 г. фонд зарплаты рабочых і служачых БССР вырас у 6,5 раза. За чатыры гады другой пяцігодкі сярэдне-месячная зарплата рабочага цэнзавай прамысловасці вырасла на 69,5 проц., зарплата інжынерна-тэхнічных работнікаў вырасла на 53,3 проц.

Змяніўся твар беларускай вёскі. Ужо няма ў Беларусі ранейшай вёскі з убогімі хаткамі, царквой і карчмой. Яе месца заняла новая, сацыялістычная вёска, з клубамі і школамі, з яслямі і бальніцамі, з трактарамі і камбайнамі.

Шпаркімі тэмпамі праводзіцца механізацыя сацыялістычнай сельскай гаспадаркі. На першае студзеня 1938 года ў рэспубліцы аб'яднана ў калгасы 685.095 сялянскіх двароў, што складае 87,6 проц. Рэспубліка мае 200 машына-трактарных станцый. На палях Савецкай Беларусі будуць сёлета працаваць 7.550 трактараў, 1.214 камбайнаў, 1.183 аўтамашыны, 2.680 трактарных сеялак, тысячы складаных і паўскладаных малатарань, сеялак, ільнацерабілак і іншых сельскагаспадарчых машын.

Хіба гэта не найярчэйшы довад клопатаў партыі і асабіста таварыша Сталіна аб нашай Беларусі, аб нашым беларускім народзе.

Сацыялістычнае спаборніцтва і стаханаўскі рух усё больш і больш разгортваюцца ў калгаснай вёсцы. Растуць выдатныя майстры высокіх ураджаяў.

Залацісты лён—багацце нашай рэспублікі. Беларускі лён славіцца далёка за межамі Савецкага Саюза. Новыя, адваяваныя ў прыроды землі засяваюцца ільном. Лён становіцца базай рэспубліканскай тэкстыльнай прамысловасці.

Сотні тысяч калгаснікаў нястомна змагаюцца за павышэнне ўраджаю. За перадавікамі сацыялістычнай сельскай гаспадаркі ідзе маса калгаснага сялянства. І рэзультаты гэтай барацьбы даюць поўныя амбары калгаснага хлеба, добрую аплату працадня калгасніка.

Калгас імя Кірава, Мсціслаўскага раёна атрымаў сярэдні ўраджай жыта 23 ц., пшаніцы і ячменю—па 19 ц. Звяно Сенчыла Паліны (калгас «2-я пяцігодка», Талачынскага раёна) атрымала ўраджай ільнавалакна 13 ц. і ільнанасення больш 10 ц. з гектара.

У рэзультаце барацьбы за ўраджай множацца рады стаханаўцаў калгасных палёў. Усё больш і больш выдатных імён называюць ва ўсёй Беларусі: Барушка, Батоўкін, Белая, Макарэнка, трактарыстка Соф'я Рачок, камбайнерка Мандрукевіч, жывёлавод Башкірава, ільнацерабільшчык Белы. Хто з беларускіх калгаснікаў не ведае гэтых людзей, хто не імкнецца паследаваць іх прыкладу. Некаторым з іх, як т. Батоўкіну, Соф'і Рачок беларускі народ аказаў самае высокае давер'е, выбраўшы іх сваімі дэпутатамі ў Вярхоўны Совет Савецкага Саюза.

Беларускія калгаснікі дасканала авалодваюць навукай і тэхнікай сацыялістычнай гаспадаркі. 1.400 трактарных механікаў, 1.116 кам-

байнераў, 22.000 трактарыстаў, 1.500 шофераў, 2.025 машыністаў малатарань, тысячы старшынь калгасаў, садаводаў, вадзіцеляў сельскагаспадарчых машын, 13.000 палягодаў—хіба ўсё гэта не сведчыць аб росце калгаснага сялянства, аб вырошчванні сваіх уласных кадраў? Хіба гэта не лепшае сведчанне аб агромнай дапамозе рускага рабочага класа, аб найвялікшых клопатах партыі і асабіста таварыша Сталіна аб беларускім сялянстве.

Адыйшла ў мінулае убогая беларуская вёска з пакасіўшыміся курнымі хатамі, з невылазнай граззю двароў і вуліц, з адвечным голадам, бязвыходнай галечай. Яркім прыкладам, які пацвярджае гэта становішча, гэта цудоўнае сучаснае з'яўляецца вёска Дашкоўка Магілеўскага раёна і многа тысяч іншых беларускіх вёсак. Дашкоўка ў мінулым—вёска з неўраджайнымі палоскамі зямлі, акружаная масівам памешчыцкай зямлі. У 1897 г. у вёсцы налічвалася граматных 23 чал. У царкоўна-прыходскай школе вучыліся дзеці пераважна багацеяў. Гэта вёска перанесла на сябе сваявольства польскіх паноў.

Зусім непазнавальнай стала совецкая Дашкоўка. Зараз у гэтай вёсцы працуюць свабодныя сяляне—калгаснікі. Совецкая ўлада навечна замацавала зямлю за калгасам. Ураджай калгаса расце з кожным годам. У вёсцы поўнасцю ліквідавана няграматнасць. Ёсць добрая сярэдняя школа, у якой навучаецца 450 дзяцей. У вёсцы—вялікі магазін, цырульня. Многа знатных людзей выраслі ў Дашкоўцы: лётчыкі, лейтэнанты, інжынеры, урачы, настаўнікі, аграномы, адказныя партыйныя работнікі, трактарысты, слесары і т. д.

Гэта адзін прыклад выдатнага сучаснага, але такіх прыкладаў у Беларусі мноства.

Мы маем агромны рост нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры беларускага народа.

Да вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі ў Беларусі было звыш 75 проц. няграматнага насельніцтва, сярод іх жанчын 90 проц. Зараз няграматнасць амаль поўнасцю ліквідавана. У 1914—15 гг. у Беларусі налічвалася 200 тысяч навучаючыхся, а ў 1937-38 гг. адных школ мы маем 7.032, за гады другой пяцігодкі пабудавана 565 сталінскіх школ, у якіх навучаецца звыш мільёна нашых совецкіх дзяцей. У дакастрычніцкай Беларусі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, а зараз іх 22, дзе навучаецца 15 тысяч нашых совецкіх студэнтаў, 95 тэхнікумаў з колькасцю больш 32 тысяч студэнтаў. Армія настаўнікаў вырасла ў параўнанні з 1914 г. з 7.164 чал. да 32.921 чал. у 1938 годзе.

Агромны рост кадраў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, у совецкіх навуковых і культурных установах таксама гаворыць аб вялікіх перамогах Беларускай ССР. Толькі за гады другой пяцігодкі ў БССР падрыхтавана звыш 5 тысяч чалавек вышэйшай кваліфікацыі і 14 тысяч чалавек сярэдняй кваліфікацыі, з іх: педагогаў—1.754 чал., інжынераў розных спецыяльнасцей—637 чал., спецыялістаў сельскай гаспадаркі—1.995 чал., медработнікаў—844 чал. і інш. Усе гэтыя спецыялісты падрыхтаваны ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах Беларусі: Беларускім дзяржаўным універсітэце, 10 пед'інстытутах, Палітэхнічным інстытуце, Мед'інстытуце, Інстытуце народнай гаспадаркі, Сельскагаспадарчым інстытуце.

Агромным сталінскім клопатам акружаны дзеці Совецкай Беларусі. 253.600 дзяцей ахоплены пастаяннымі і сезоннымі яслямі, 41.832 дзяцей знаходзяцца ў дзіцячых садах; у гарадах і раёнах БССР пабудавана і абсталявана 17 палацаў піонераў.

За гады совецкай улады ў Беларусі створана вялікая сетка тэатраў, кіно, клубаў, дамоў соцкультуры, музычных устаноў, вячэрніх школ для дарослых і т. д. Усё гэта стала здабыткам шырокіх мас працоўных Беларусі толькі пры совецкай уладзе, толькі ў рэзультаце перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

У Беларусі створаны: Дзяржаўны тэатр оперы і балета, для якога ўзведзен прыгожы будынак, Дзяржаўны беларускі драматычны тэатр, Дзяржаўны драматычны яўрэйскі тэатр, Дзяржаўная філармонія, Кансерваторыя, тысячы гурткоў рабочай і калгаснай самадзейнасці і т. д.

Пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі—роўная сярод роўных—квітнее і развіваецца Беларуская Соцыялістычная Совецкая рэспубліка. Грозным фарпостам адзінай вялікай дзяржавы соцыялізма стаіць яна на мяжы з капіталістычным Захадам. І ніколі не ўдасца прарвацца варожым полчышчам за пагранічныя слупы. Ланцугом пагранічных застаў зачыніла радзіма свае граніцы. Верныя сыны нашага народа—гераічныя пагранічнікі—няўсыпна вартуюць рубяжы Краіны советаў. Пагранічная варта—надзейны атрад узброеных сіл нашай радзімы—заўсёды стаіць у поўнай баявой гатоўнасці на совецкіх рубяжах.

Беларускі народ, які жыве на граніцы з капіталістычным светам, заўсёды памятае выдатныя словы таварыша Сталіна аб тым, што пакуль капіталістычнае акружэнне існуе, совецкі народ трэба трымаць у поўнай мабілізацыйнай гатоўнасці, каб ніякія ворагі—ні ўнутраныя, ні знешнія—не маглі нас засцігнуць знянацку.

І ў першую чаргу ўвага накіравана на ўмацаванне баявой магутнасці нашай любімай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі—вернага аплоту міру і грознага абаронцу соцыялістычных заваёў.

Працоўныя Совецкай Беларусі, як і ўвесь народ вялікага Совецкага Саюза, праяўляюць штодзенна найвялікшы клопат аб нашай слаўнай Чырвонай Арміі, дапамагаюць ёй мацаваць абаронную магутнасць нашай краіны.

Сіла і неперамножнасць нашай Чырвонай Арміі заключаецца ў тым, што яна, з'яўляючыся—кроў ад крові, плоць ад плоці—арміяй рабочых і сялян, тысячамі ніцей звязана з шырокімі масамі працоўных. І калі варожая нечысць спрабуе ступіць на нашу свяшчэнную совецкую зямлю,—наша Чырвоная Армія, разам з вялікім совецкім народам, кіруемая нашай партыяй Леніна—Сталіна, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, пад вадзіцельствам нашага любімага маршала Совецкага Саюза наркома абароны СССР Клімента Ефрэмавіча Варашылава разаб'е і знішчыць фашысцкую зграю на той тэрыторыі, адкуль вораг з'явіцца.

Наша Чырвоная Армія, як ні адна армія капіталістычных краін, актыўна ўдзельнічае ва ўсім палітычным жыцці нашай краіны.

І вось зараз, рыхтуючыся да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, байцы, камандзіры, камісары і палітработнікі Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі актыўна дапамагаюць нам у арганізацыйнай і агітацыйнай прапагандысцкай рабоце.

Калі ў перыяд падрыхтоўкі выбараў у Вярхоўны Совет СССР у нашых гарадах, калгасах, соўгасах працавала каля 12 тысяч агітатараў і прапагандыстаў з Чырвонай Арміі, то і зараз тысячы агітатараў, прапагандыстаў і давераных асоб уключыліся ў работу па растлумачэнню задач у сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Совет БССР.

Сотні і тысячы дакладаў праводзяцца сіламі прапагандыстаў Чырвонай Арміі на нашых заводах, фабрыках, у соўгасах і калгасах.

Нашы граніцы замкнуты на моцны замок. Іх ахоўваюць слаўныя совецкія пагранічнікі.

На пагранічных заставах Беларусі вы сустрэнеце і рабочых Масквы, Ленінграда, і сыноў сонечнага Узбекістана, і рабочых і сялян Беларусі, і гарнякоў Урала, і прадстаўнікоў гераічнага грузінскага народа, і рыбакоў суровай поўначы. Яны прышлі сюды, каб разам з усім беларускім народам сваімі грудзьмі зачыніць перад ворагам граніцу краіны Советаў.

Беларускі народ не толькі любіць сваю разведку, ён сам самаафярна дапамагае ў барацьбе з ворагамі радзімы, у барацьбе з парушальнікамі граніцы. Кожны калгаснік, кожны працоўны Совецкай Беларусі—ад мала да вяліка—лічыць за чэсць ахоўваць граніцы ад нападу ворагаў. Беларускі народ добра ведае, што чым лепш ён ахоўвае совецкія рубяжы, тым больш умацоўваецца магутнасць нашай соцыялістычнай радзімы.

Поспехі Совецкай Беларусі былі-б значна большымі, калі-б не шкодніцкая работа тройчы прэзрэнных трацкісцка-бухарынскіх і нацыянал-фашысцкіх бандытаў.

Подлыя здраднікі, шпіёны—шаранговічы, чэрвяковы, галадзеды, бенекі—хацелі аддаць беларускі народ пад ярмо польскага і германскага фашызма,ператварыць наш квітнеючы край—Совецкую Беларусь—у калонію фашызма. Але ім гэта не ўдалося і ніколі не ўдасца, іх карта канчаткова біта.

Увесь клубок варожай дзейнасці разблыталі слаўныя совецкія чэкісты, узначальваемыя сталінскім наркомам—Нікалаем Іванавічам Ежовым.

Совецкая Беларусь была, ёсць і будзе соцыялістычным фарпостам на граніцы з капіталістычным Захадам. Беларускі народ горача любіць сваю радзіму і гатоў у любую мінуту грудзьмі адстаяць недатыкальнасць совецкай зямлі.

* * *

Совецкая Беларусь уступіла у выбарчую кампанію, узброеная багацейшым вопытам, накопленым за час выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Галоўнай задачай зараз з'яўляецца—як мага лепш, найбольш талкова і пераканаўча расказаць шырокім масам выбаршчыкаў аб палітычным сэнсе выбараў на аснове Сталінскай Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР, на яркіх прыкладах паказаць агромныя дасягненні ордэнаноснай Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Партыя паставіла перад намі задачу—надыходзячыя выбары ў Вярхоўны Совет Беларускай рэспублікі правесці яшчэ лепш, яшчэ больш арганізавана, чым прайшоўшыя выбары ў Вярхоўны Совет СССР. Няма ніякага сумнення ў тым, што партыйныя, совецкія, профсаюзныя і комсамольскія арганізацыі зробяць усё, каб выканаць з гонарам пастаўленую нашай партыяй і таварышом Сталіным задачу. Выбары свайго беларускага ўрада яны правядуць на высокім ідэйна-палітычным узроўні і забяспечаць у іх стопроцантны ўдзел выбаршчыкаў.

Дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР з'явіцца новай дэманстрацыяй нерушымасці блока комуністаў і беспартыйных, днём но-

вага, яшчэ большага згуртавання працоўных мас вакол слаўнай комуністычнай партыі і вялікага Сталіна.

Комуністычная Партыя (большэвікоў) Беларусі, праводзячы выбары ў Вярхоўны Совет БССР, яшчэ больш умацуе сувязь з шырокімі масамі працоўных, яшчэ больш узмоцніць сталінскі блок комуністаў і беспартыйных і на аснове гэтага блока атрымае новыя перамогі ў выбарах у Вярхоўны Совет БССР.

Беларуская Соцыялістычная Совецкая Рэспубліка з'яўляецца баявым фарпостам на граніцы з капіталістычным светам. Гэта абавязвае працоўных у выбарчую кампанію яшчэ вышэй узняць рэволюцыйную пільнасць, яшчэ больш рашуча выкрываць і знішчаць ворагаў народа, якою-б маскай яны ні прыкрываліся.

Першымі сваімі кандыдатамі ў Вярхоўны Совет Беларускай ССР мы пашлем вялікага правадыра народаў, лепшага друга беларускага народа Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна і яго слаўных саратнікаў. Мы выберам лепшых сыноў і дачок нашай цудоўнай радзімы, беззаветных барацьбітоў за справу партыі Леніна-Сталіна, за справу паспяховага будаўніцтва комунізма.

Большэвікі Беларусі пад кіраўніцтвам сталінскага Цэнтральнага Камітэта ВКП(б), пад кіраўніцтвам мудрага правадыра, настаўніка і друга працоўных таварыша Сталіна ўзорна правядуць выбары ў Вярхоўны Совет БССР, яшчэ больш умацуюць сувязь з беспартыйнымі масамі і яшчэ хутчэй і лепш будуць выконваць задачы будаўніцтва соцыялізма—комунізма ў краіне.

Няхай жыве непарушны блок комуністаў і беспартыйных!

Няхай жыве Комуністычная Партыя—правадыр і арганізатар соцыялістычных перамог у нашай краіне!

Няхай жыве таварыш Сталін!

---

**В. Бедзін**
Заг. аддз. Партпрапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б

# Шырэй разгарнуць большэвіцкую агітацыю і прапаганду

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР, праведзеныя на аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі, паказалі ўсяму свету несакрушальную магутнасць совецкага народа, яго бязмежную адданасць партыі Леніна—Сталіна, яго непахіснае маральна-палітычнае адзінства, што знайшло сваё выражэнне ў бліскучай перамозе блока комуністаў і беспартыйных.

Злейшыя ворагі народа, трацкісцка-бухарынскія фашысцкія шпіёны і дыверсанты, асцервянела змагаючыся супроць соцыялістычнага будаўніцтва, усімі сродкамі імкнуліся нанесці ўдар нашай соцыялістычнай радзіме ў самым галоўным звяне—падарваць і разрушыць сувязь комуністычнай партыі з беспартыйнымі. Сваімі варожымі актамі яны імкнуліся выклікаць нездаволенасць і азлабленне мас супроць большэвіцкай партыі і совецкай улады, каб гэтым аслабіць магутнасць нашай соцыялістычнай радзімы і аддаць яе на разрабленне фашысцкім захватчыкам.

На гэтыя варожыя прошукі фашысцкіх агентаў працоўныя нашай краіны адказалі яшчэ большым згуртаваннем вакол партыі Леніна—Сталіна і совецкага ўрада, яшчэ большым павышэннем рэволюцыйнай пільнасці, выкрываючы ўсякія спробы ворагаў раз'яднаць партыю з народам.

Кампанія па выбарах у Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік праходзіць пад знакам далейшага ўмацавання сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, далейшага ўмацавання маральна-палітычнага адзінства совецкага народа. Аб гэтым сведчаць аднадушныя выступленні на сходах і мітынгах мільёнаў рабочых, калгаснікаў і совецкай інтэлігенцыі, якія выражаюць сваю бязмежную адданасць большэвіцкай партыі і правадыру народаў таварышу Сталіну.

Выбары ў Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік трэба правесці яшчэ лепш, яшчэ арганізаваней, скарыстоўваючы велізарны вопыт палітычнай і арганізацыйнай работы, набыты ў перыяд выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Ка дню выбараў у Вярхоўны Совет БССР працоўныя павінны быць добра азнаёмлены з Палажэннем аб выбарах, з Канстытуцыямі СССР і БССР, з тымі поспехамі, якія мы маем па Совецкаму Саюзу і Беларускай ССР. Жывое, праўдзівае слова большэвіцкай агітацыі павінна пранікнуць ва ўсе куткі нашай неасяжнай радзімы, каб яшчэ больш замацаваць несакрушальны блок комуністаў з беспартыйнымі і забяспечыць новы поспех у выбарчай кампаніі.

Кампанія па выбарах у Вярхоўны Совет БССР патрабуе ад кожнай партыйнай арганізацыі далейшага палепшання і ўзмацнення ўсёй арганізацыйнай і агітацыйна-прапагандысцкай работы. Аб гэтым належыць памятаць усім кіруючым работнікам, усім партыйным і непартыйным большэвікам.

Асаблівасць надыходзячых выбараў у тым, што яны адбываюцца ўлетку. Гэта трэба ўлічыць і ні ў якім разе не згортваць або звужаць агітацыйна-масавую работу, спасылаючыся на ўдарныя палявыя работы. Агітацыйна-масавая работа павінна быць разгорнута ў асноўным на полі, у брыгадзе, звяне. Усю гаспадарча-вытворчую работу неабходна спалучыць з палітыка-выхаваўчай работай сярод насельніцтва.

У летні час з розных месц прыбываюць сотні тысяч людзей на будаўніцтва ў гарады, на торфараспрацоўкі і т. д. Шмат працоўных выязджае на дачы, у дамы адпачынку, курорты, санаторыі. Адбываецца вялікае перасоўванне людзей. З вялікай нагрузкай працуе транспарт як чыгуначны, так і водны.

Мінулыя выбары праходзілі зімой, і работнікі воднага транспарту галасавалі ў выбарчых участках, арганізаваных па затонах. Зараз-жа ўвесь марскі і рачны транспарт знаходзіцца на морах і рэках. Усё гэта абавязвае партыйныя і совецкія арганізацыі асноўную ўвагу ўдзяляць арганізацыйна-тэхнічным і агітацыйна-прапагандысцкім пытанням. Неабходна забяспечыць кожнаму выбаршчыку, дзе-б ён ні знаходзіўся ў дзень выбараў, магчымасць прыняць у іх удзел, каб выканаць доўг грамадзяніна СССР.

Аднак, падрыхтоўка да выбараў яшчэ як след не арганізавана ў Віцебскім, Полацкім, Дрысенскім і іншых раёнах. Большэвіцкай агітацыяй і прапагандай яшчэ не ахоплена ўсё насельніцтва. Мала зроблена для растлумачэння працоўным палітычнага значэння нашых выбараў на аснове Сталінскай Канстытуцыі, значэння соцыялістычных перамог, атрыманых пад кіраўніцтвам нашай слаўнай большэвіцкай партыі—партыі Леніна—Сталіна.

Мы маем дзесяткі тысяч гурткоў, у якіх займаюцца сотні тысяч выбаршчыкаў. Але гэта складае менш паловы ўсёй колькасці выбаршчыкаў. У Віцебску на фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» гурткамі па вывучэнню Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах ахоплена толькі 30—40 проц. рабочых. Тут супакоіліся на тым, што стварылі зусім недастатковую колькасць гурткоў і вылучылі для іх агітатараў.

У паасобных сельсоветах Віцебскага, Полацкага і Дрысенскага раёнаў прапагандысты райкомаў партыі не правяраюць работу агітатараў, не дапамагаюць ім практычна. Сярод агітатараў сустракаюцца яшчэ недастаткова праверaныя на рабоце, палітычна малаграматныя людзі, якія не могуць адказаць нават на самыя простыя пытанні.

Агітатар калгаса імя Красіна (Жоўнаўскі сельсовет Дрысенскага раёна) тав. Казарскі на занятках 27 красавіка сказаў, што дзень выбараў прызначан на 12 ліпеня. Ён не ведаў, якая літаратура рэкамендуецца для заняткаў у гуртку. Аказалася, што ён не быў нават на семінары і наогул ніхто яго не інструктаваў. Тав. Казарскі да заняткаў у гуртку не рыхтуецца, не складае канспекта і абмяжоўваецца толькі чыткай Палажэння аб выбарах, без усякіх тлумачэнняў. Такія заняткі праходзяць вельмі сумна. Праўда, большая частка агітатараў раёна, якія працавалі ў час выбараў у Вярхоўны Совет СССР, падрыхтавана добра. Але вялікім недахопам з'яўляецца тое, што для

слабых агітатараў, як тав. Казарскі, Дрысенскі райком партыі і райвыканком не арганізавалі рэгулярнага інструктажу.

Большасць гурткоў пачала работу ў канцы сакавіка і правяла па 3—4 заняткі. Зусім зразумела, што ўзорна паставіць агітацыйна-масавую работу можна толькі ў такім гуртку, які налічвае не больш 15—20 чалавек. Тым часам ёсць факты, што ў гуртках налічваецца па 80—90 чалавек выбаршчыкаў (Арлейскі сельсовет Полацкага раёна), аб чым ні райком, ні райвыканком нават не ведалі.

На вагонным участку і ў пунктах агляду ст. Віцебск гурткі па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах не створаны, агітатары не вылучаны. Вывучэнне матар'ялаў аб выбарах уціскваецца сярод заняткаў па тэхнічнай вучобе. Насценная газета не адлюстроўвае ходу падрыхтоўкі да выбараў. Таксама і на фабрыцы «Чырвоны Кастрычнік» гурткі не створаны, а на выбарчым участку яны працуюць нездавальняюча, агітатарамі ніхто не кіруе.

Застаюцца лічаныя дні да выбараў. Трэба безадкладна ўзяцца за разгортванне большэвіцкай агітацыі. Там, дзе гурткі не створаны, іх трэба хутчэй стварыць, падабраўшы добрых, граматных агітатараў, ведаючых Канстытуцыю, выбарчы закон, здольных несці большэвіцкае слова ў масы і абараняць справу комуністычнай партыі.

Цяпер ніхто не можа адмаўляцца тым, што няма людзей. Мы маем выдатныя кадры стаханаўцаў прамысловасці і сельскай гаспадаркі, мы маем совецкую інтэлігенцыю, мы маем комсамол. У 1938 г. па БССР на дзесяцідзенных курсах агітатараў падрыхтавана больш пяці тысяч чалавек, на трохдзенных курсах па падрыхтоўцы да выбараў займалася каля дваццаці тысяч настаўнікаў. Акрамя таго, мы маем велізарную армію большэвіцкіх агітатараў, праявіўшых сябе ў час выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Усімі гэтымі выдатнымі людзьмі трэба канкрэтна кіраваць, непасрэдна дапамагаць у іх адказнай і пачэснай рабоце. Партыйныя арганізацыі павінны шырока папулярызаваць станоўчы вопыт работы лепшых агітатараў, а такіх у нас вельмі многа.

Добра працуе агітатар Андрушына Кацерына (Сіроцінскі раён). У яе займаецца 19 хатніх гаспадынь. Усе яны акуратна наведваюць гурток. Тав. Андрушына заўсёды добра рыхтуецца да заняткаў, складае канспект і ўмее зацікавіць слухачоў. Кожны раз каротка паўтарае з імі пройдзенае, прыводзіць шмат фактаў з жыцця працоўнага народа царскай Расіі і капіталістычных краін, карыстаецца мастацкай літаратурай. Хатнія гаспадыні рыхтуюць з кветак лозунгі: «26 чэрвеня—усе на выбары ў Вярхоўны Совет БССР!».

У г. Оршы на выбарчым участку № 14 працуе агітатарам тав. Міневіч. Пасля выбараў у Вярхоўны Совет СССР ён прадаўжаў заняткі з хатнімі гаспадынямі. На кожным занятку ён адводзіць 15—20 мінут для кароткага міжнароднага агляду. Пры вывучэнні Канстытуцыі і выбарчага закона ён скарыстоўвае даклад таварыша Сталіна, пісьмо беларускага народа таварышу Сталіну, даклад тав. Наталевіча і іншыя матар'ялы.

У Віцебску тэхнік завода імя Кірава тав. Азераў кіруе гуртком на былым 63 выбарчым участку. Заняткі праходзяць цікава і жыва. Тав. Азераў скарыстоўвае геаграфічную карту, журналы «Спутник агитатора», «Блокнот агитатора» і рад іншых матар'ялаў.

Добрым агітатарам 55-га ўчастка з'яўляецца тав. Крывая. Яна старанна рыхтуецца да заняткаў, ілюструе іх газетным матар'ялам. Для заняткаў на тэму аб пісьме комсамольца Іванова і адказе тава-

рыша Сталіна яна рыхтавалася па кнізе «Пытанні ленінізма». Спачатку да яе з'явілася 15 хатніх гаспадынь, а цяпер акуратна наведвае заняткі звыш 20 чалавек. Са сваімі слухачамі яна правяла экскурсію на акулярную фабрыку.

Многа дапамагаюць у арганізацыі заняткаў сярод хатніх гаспадынь кварткомы. Так, старшыня 8 кварткома г. Оршы т. Шалюціна, каб ахапіць усіх выбаршчыкаў гурткамі, шырока разгарнула падрыхтоўчую работу, пабывала ў кожнага выбаршчыка на кватэры. Усяго па кварткому працуе 17 гурткоў. Старасты гурткоў хатнія гаспадыні Рабіновіч Н., Лейкіна А. і 62-гадовая Штэйнгарт І. заўсёды з вялікай ахвотай збіраюць слухачоў на заняткі. Кожная з удзельніц гуртка настойліва просіць агітатараў правесці заняткі на яе кватэры. Тав. Шалюціна правяла вельмі адказную работу ў падрыхтоўцы да выбараў—праверку спісаў па 7-му ўчастку. Пры яе актыўнай дапамозе выяўлена 225 прапушчаных прозвішчаў выбаршчыкаў. Усе яны ўключаны ў спісы. Выяўлена таксама многа жыхароў, якія даўно выехалі з Оршы, але былі занесены ў спісы выбаршчыкаў. Былі выпадкі, калі адзін і той самы выбаршчык быў занесен у спісы па 2 і 3 разы. Выпраўленне гэтых памылак дало магчымасць скласці больш правільны спіс выбаршчыкаў.

Працуе тав. Шалюціна не адна, а разам са сваім актывам, які аддана і добрасумленна выконвае ўсе грамадскія даручэнні па кварткому. Член кварткома Салтановіч О., 62-гадовая Функман Ш., хатняя гаспадыня Мерліна Г. і іншыя актывісты кварткома праводзяць растлумачальную работу ў сувязі з выбарамі.

На тлушчкамбінаце агітатарам працуе тав. Коткін, беспартыйны. На занятках ён прымяняе цікавыя метады. Вывучаючы пытанне аб праве на асвету, тав. Коткін задаў слухачам такое пытанне: «Успомніце вы, старыя жыхары Нова-Беліцы, дзе вучыліся дзеці Вітэнберга—уласніка запалкавай фабрыкі і дзе вучыліся вашы дзеці?» Слухачы расказалі, што ў Беліцы была толькі адна царкоўна-прыходская школа, але дзеці іх не маглі вучыцца з-за цяжкага матар'яльнага становішча. «А цяпер,—сказала адна з работніц,—мой сын скончыў сярэднюю школу і працуе на аўтазаводзе ў Маскве».

На камбінаце імя Ежова партыйная арганізацыя ўмела спалучае агітацыйна-масавую работу з мабілізацыяй рабочых на выкананне вытворчага плана, што дало добрыя вынікі. За дзевяць месяцаў 1937 года план быў выканан толькі на 61,8 проц., а ў студзені 1938 г.—ужо на 112 проц., у першым квартале—на 107 проц.

Намеснік начальніка ст. Гомель, член партыі тав. Грос, працуючы агітатарам, дабіўся адпраўлення паяздоў дакладна па графіку, узорнага ўтрымання стрэлак.

Комуніст тав. Вайнштэйн (пагрузачны двор ст. Гомель) галоўнай задачай сваёй агітацыйнай работы паставіў барацьбу калектыва за перавыкананне плана. Яго змена стала поўнасцю стаханаўскай і выпрацоўвае 240 проц. нормы.

З прыведзенага відаць, што пры большэвіцкіх адносінах да справы агітацыі і прапаганды можна дабіцца бліскучых вынікаў на кожным участку работы.

Слова большэвіцкай агітацыі за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных павінна гучэць не толькі на буйных прадпрыемствах, але ўсюды, дзе ёсць выбаршчыкі: у невялікіх совецкіх гандлёвых установах, сярод саматужнікаў, сярод будаўнічых і сезонных ра-

бочых, сярод пенсіянераў і хатніх гаспадынь, сярод моладзі, якая дасягнула ўзросту 18 год.

Агітацыя на выбарчым участку павінна быць яркай, канкрэтнай, палітычна завостранай, праўдзівай, зразумелай для выбаршчыкаў. Яе неабходна спалучаць з усімі відамі культурнай і масава-палітычнай работы сярод насельніцтва.

Агітмасавую работу па выбарах на вёсцы нельга абмежаваць толькі склiканнем агульна-калгасных сходаў, яе трэба перанесці ў палявыя брыгады, трактарныя атрады і т. д. Многа дапамогуць у гэтым дамы соцыялістычнай культуры, клубы, хаты-чытальні і чырвоныя куткі.

Велізарную ролю на выбарчых участках павінны адыграць агітпункты. Тут павінна быць выбарчая літаратура, плакаты, лозунгі, наглядныя дапаможнікі. Для работы на агітпунктах трэба вылучаць добра падрыхтаваных, палітычна граматных таварышоў, якія-б здолелі даць вычарпальны адказ на ўсе пытанні, звязаныя з выбарамі ў Вярхоўны Совет БССР. За ўзорную работу агітпункта адказвае ў першую чаргу тая вядучая партарганізацыя, якая прымацавана да выбарчага ўчастка. Штодзеннае і планамернае правядзенне лекцый, дакладаў, гутарак аб Сталінскай Канстытуцыі і Палажэнні аб выбарах забяспечыць большэвіцкі размах і высокую якасць работы. Гарадскія партыйныя арганізацыі абавязаны дапамагчы ў гэтай справе сельскім.

З велізарнай радасцю і гордасцю працоўныя нашай ордэнаноснай рэспублікі сустрэлі згоду дарагога і любімага правадыра, вялікага настаўніка і друга народаў таварыша Сталіна і яго верных саратнікаў таварышоў Молатава, Кагановіча, Варашылава, Калініна, Мікаяна, Андрэева, Ежова, Жданава балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Беларускай ССР.

У яркіх і шчырых прамовах на многатысячных мітынгах і сходах працоўныя горада і вёскі выказваюць пачуцці ўсяго совецкага народа, заяўляючы, што няма і не можа быць большага гонару, чым галасаваць за тых, хто па ленінскаму шляху вёў і вядзе нашу квітнеючую краіну і яе многамільённы шчаслівы народ ад перамогі да перамогі, за таго, чыё імя з'яўляецца вялікім сцягам перамог працоўных не толькі нашай краіны, але і ўсяго свету,—за вялікага правадыра, друга і настаўніка таварыша Сталіна і яго бліжэйшых баявых саратнікаў. З імем вялікага Сталіна ў сэрцы, у несакрушальным сталінскім блоку комуністаў і беспартыйных цвёрдым крокам ідзе беларускі народ да выбараў свайго вярхоўнага органа ўлады, свайго совецкага парламента.

Беларускі народ, як і ўсе народы нашай соцыялістычнай радзімы вылучыў са свайго асяроддзя сотні і тысячы таленавітых, мужных совецкіх людзей, бязмежна адданых справе Леніна—Сталіна, палкіх патрыётаў соцыялістычнай бацькаўшчыны. Побач з выпрабаванымі кіраўнікамі нашай комуністычнай партыі і совецкага ўрада беларускі народ вылучыў кандыдатамі ў Вярхоўны Совет БССР лепшых з лепшых, адданейшых сыноў народа і партыі: рабочых-стаханаўцаў, калгаснікаў, работнікаў культуры і навукі, байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі, выхаваных большэвіцкай партыяй, горача любячых сваю соцыялістычную радзіму, бязлітасных да ворагаў, нястомных барацьбітоў за соцыялізм, за шчасце народа.

Сярод кандыдатаў, вылучаных большэвіцкім народам,—ініцыятар стаханаўскага руху на менскім заводзе імя Кірава, рабочы-каваль,

палкі патрыёт радзімы А. П. Ціханаў; ад калгаснікаў і рабочых Мазыршчыны—дастойны сын радзімы, брыгадзір трактарнай брыгады Козінскай МТС Н. П. Баброў; ад працоўных Грэбелеўскай выбарчай акругі Магілеўскага раёна—лепшая стаханаўка-трактарыстка, палкая патрыётка нашай радзімы комсамолка Е. М. Алексейчыкава; ад Смалянскай выбарчай акругі Аршанскага раёна—адданы справе соцыялізма малады інжынер М. А. Сцяпанаў.

Кандыдатамі ў дэпутаты вылучаны таксама вырашчаныя партыяй Леніна—Сталіна партыйныя і совецкія работнікі. Сярод іх А. П. Матвееў—сакратар Менскага абкома партыі, Д. Ф. Маркін—сакратар Палескага абкома партыі, сакратар Сталінскага горрайкома КП(б)Б—тав. Смоляр, другі сакратар Менскага гаркома партыі—тав. Савіцкі, сакратар Магілеўскага райкома партыі—тав. Р. Я. Шуб, старшыня Віцебскага горсовета тав. М. І. Багрыноўскі, па Рэчыцкай гарадской выбарчай акрузе—актыўны грамадскі працаўнік, выкладчык педвучылішча І. К. Якімовіч і т. д.

Шырокая агітацыя за вылучаных кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных—важнейшая палітычная задача. Няма большага гонару і шчасця, чым несці жывое большэвіцкае слова ў масы выбаршчыкаў, агітаваць за справу Леніна—Сталіна, за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных.

Выключна адказная роля давераных асоб, выбраных на раённых і акруговых нарадах для правядзення агітацыі за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных. Давераныя асобы павінны змагацца за высокую якасць агітацыйнай работы, за яе большэвіцкую накіраванасць, даваць самы сакрушальны адпор варожым вылазкам. Даверанай асобе даручаецца ўсімі метадамі пераканання, усімі сіламі большэвіцкай праўды дабівацца таго, каб 26 чэрвеня ўсе выбаршчыкі ўчастка прышлі да урнаў і аддалі свае галасы за вылучанага на акруговай прадвыбарчай нарадзе кандыдата.

Партыйная арганізацыя павінна дапамагчы давераным асобам чотка арганізаваць работу і весці яе на высокім ідэйна-палітычным узроўні. Партарганізацыі заводаў, калгасаў, соўгасаў, МТС, палітаддзелаў чыгункі і воднага транспарту ў дапамогу даверанай асобе павінны вылучыць патрэбны актыў з комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных для работы на выбарчым участку. Толькі пры ўмове шырока разгорнутай і ўзорна пастаўленай агітацыйна-масавай работы давераная асоба зможа апраўдаць аказанае ёй высокае давер'е, дабіцца ўдзелу ўсіх выбаршчыкаў у тайным галасаванні і выбранні намечанага кандыдата.

Удзяляючы максімум увагі агітацыйнай рабоце непасрэдна на выбарчым участку, ні ў якім разе нельга дапусціць аслаблення яе на прадпрыемствах і ўстановах. З выбаршчыкамі, якія працуюць на розных прадпрыемствах, але пражываюць на тэрыторыі аднаго і таго-ж выбарчага ўчастка і акругі, неабходна праводзіць агульныя сходы. На гэтых сходах трэба растлумачыць выбаршчыкам іх задачы у выбарчай кампаніі, прыцягваць да агітацыйнай работы на сваім выбарчым участку.

Уся наша палітычная агітацыйна-масавая работа павінна быць накіравана на тое, каб ахапіць большэвіцкім уплывам кожнага выбаршчыка, падрыхтаваць палітычна да выканання яго ганаровага і пачэснага абавязку—удзелу ў выбарах у Вярхоўны Совет БССР.

Рыхтуючыся да выбараў у свой соцыялістычны парламент, беларускі народ яшчэ больш узмацняе дружбу з брацкімі саюзнымі рэспублікамі, яшчэ больш згуртоўваецца вакол большэвіцкай партыі, любімага правадыра працоўных усяго свету—таварыша Сталіна, яшчэ больш умацоўвае заходнія граніцы СССР.

26 чэрвеня—дзень вялікага свята. У гэты дзень працоўныя Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі аддадуць свае галасы за лепшых людзей радзімы, здольных быць дзеячамі ленінска-сталінскага тыпу. Выбары ў Вярхоўны Совет БССР будуць новай бліскучай перамогай сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

---

І. Жыткоў
Сакратар Слуцкага РК КП(б)Б

# Мацуем сталінскі блок комуністаў і беспартыйных

Выбары ў Вярхоўны Совет СССР прашлі ў Слуцкім раёне, як і ва ўсім вялікім Совецкім Саюзе, пры небывалай палітычнай актыўнасці працоўных. Кожны грамадзянін стараўся першым падаць свой голас за лепшых сыноў соцыялістычнай радзімы, каб перад усім светам прадэманстраваць сваю любоў і адданасць нашай партыі, геніяльнаму правадыру і другу працоўных—таварышу Сталіну.

У час падрыхтоўкі да выбараў у Вярхоўны Совет СССР у нашым раёне працавала 380 агітатараў: 25 комуністаў, 269 комсамольцаў і 86 беспартыйных. Вялікую дапамогу ў вывучэнні Сталінскай Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах аказалі нам таксама ваенныя таварышы.

У агіткалектывах раёна налічваецца 689 агітатараў. Усе яны зараз вядуць заняткі ў гуртках. Некаторыя з іх вядуць дадаткова палітмасавую работу на-даму ў рабочых, калгаснікаў, аднаасобнікаў.

У раёне працуе зараз 674 гурткі, з іх у вёсцы 541. Усімі гурткамі ахоплена 22.830 выбаршчыкаў.

Пасля выбараў у Вярхоўны Совет СССР масавая палітычная работа сярод насельніцтва не згортвалася. Для лепшага кіраўніцтва агітатарамі створан 31 агіткалектыў, з іх у вёсцы 19. Усе кіраўнікі агіткалектываў падабраны са складу партактыва і зацверджаны на бюро райкома партыі. Кіраўнікі агіткалектываў маюць магчымасць карыстацца кансультацыяй пры парткабінеце. Яны забяспечваюцца усімі неабходнымі дапаможнікамі і літаратурай.

Стварэнне агіткалектываў поўнасцю сябе апраўдала. Паасобныя агіткалектывы дабіліся нядрэнных паказчыкаў у разгортванні палітмасавай работы сярод насельніцтва.

Для прыкладу ўзяць работу агіткалектыва, кіраўніком якога з'яўляецца тав. Хосід. За апошні час агіткалектыў правёў два агульныя сходы выбаршчыкаў. Прысутнічала 250 чалавек. На сходах абмеркавалі вынікі выбараў у Вярхоўны Совет СССР і надыходзячыя выбары ў Вярхоўны Совет БССР. З вялікай увагай праслухана была лекцыя на антырэлігійную тэму.

На гэтым участку працуюць 5 гурткоў па вывучэнню Канстытуцыі БССР і Палажэння аб выбарах. Агітатары знаёмяць сваіх слухачоў таксама з пытаннямі бягучай палітыкі і міжнароднага становішча. Акрамя гуртковай работы, 5 агітатараў працуюць на кватэрах.

Слухачы праяўляюць вялікую актыўнасць у занятках. 56-гадовая тав. Лукіна акуратна наведвае гурток па ліквідацыі няграматнасці і патрабуе ад сваіх унукаў, каб яны ёй дапамагалі рыхтаваць урокі.

Нядрэнна пастаўлена работа на выбарчым участку № 3 комсамольскай выбарчай акругі, дзе працуе 13 агітатараў: 10 комсамольцаў і 3 беспартыйных. Гуртковай работай ахоплена 280 чалавек, з іх 180 жанчын.

З пачатку 1938 года выбарчы ўчастак № 3 правёў наступную работу з насельніцтвам:

У студзені праведзены 4 заняткі па вывучэнню вынікаў выбараў у Вярхоўны Совет СССР, 4 заняткі, прысвечаныя I Сесіі Вярхоўнага Совета СССР, і адзін сход з дакладам аб дні смерці Владзіміра Ільіча Леніна. На сходзе прысутнічала 295 чалавек. У лютым адбыўся сход па пытанню аб мэтах і метадах шкодніцка-шпіёнскай работы замежных разведак. Прысутнічала 275 чал. На мітынгу ў сувязі з працэсам над «права-трацкісцкім блокам» прысутнічала 264 чал. На сходзе, прысвечаным 20-годдзю РСЧА, прысутнічала 273 чал. У сакавіку прачытана лекцыя на антырэлігійную тэму; прысутнічала 212 чал. У красавіку праведзен даклад аб падзеях у Іспаніі. За гэтыя-ж месяцы праведзены 3 заняткі па Канстытуцыі БССР, 3 заняткі па вывучэнню Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Кіруе агіткалектывам тав. Шведак.

Бюро райкома партыі прымацавала да выбарчых участкаў пярвічныя партыйныя і комсамольскія арганізацыі, усклаўшы на іх адказнасць за разгортванне палітмасавай работы, за бесперабойную работу агіткалектыва і гурткоў.

Пярвічная партарганізацыя ст. Слуцк (парторг тав. Федотаў) арганізавала 10 гурткоў па вывучэнню Канстытуцыі і выбарчага закона. У гуртках займаюцца 35 чалавек. Кіраўнікі гурткоў добрасумленна рыхтуюцца да заняткаў. Бываюць, аднак, выпадкі, калі кіраўнік не можа адказаць на пытанне. Так было з тав. Калека. Але ён не смуціўся і заявіў, што паколькі заданае пытанне для яго не знаёма, ён адкажа на наступным занятку. К наступнаму разу тав. Калека добра падрыхтаваў адказ, і слухачы засталіся вельмі задаволенымі. Тав. Калека не стараецца паказаць сябе усезнайкай і за гэта карыстаецца павагай і аўтарытэтам сярод сваіх слухачоў.

Агітацыйная работа на ст. Слуцк увязваецца з разгортваннем соцспаборніцтва і ўдарніцтва. У выніку станцыя мае нядрэнныя паказчыкі. Прастоі вагонаў пад разгрузкай і выгрузкай скараціліся на 1 гадз. 30 мін. Агітатары служаць прыкладам дысцыплінаванасці на вытворчасці. За высокія паказчыкі агітатары тт. Іванова і Краўцоў атрымалі падзяку ад начальніка дарогі.

З вялікай радасцю сустрэлі працоўныя нашага раёна рашэнне прэзідыума ЦВК БССР аб прызначэнні выбараў у Вярхоўны Совет БССР на 26 чэрвеня. Гэта радасць вылілася ў дэманстрацыю бязмежнай адданасці ўсяго народа свайму правадыру і настаўніку таварышу Сталіну і яго верным саратнікам—кіраўнікам партыі і ўрада.

Рабочыя, калгаснікі, совецкая інтэлігенцыя і ўсе працоўныя раёна, як і ўсёй нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, у сваіх выступленнях выказвалі пачуцці совецкага патрыятызма, пачуцці нянавісці да подлых здраднікаў радзімы—трацкісцка-бухарынскіх, нацыянал-фашысцкіх, бундаўскіх бандытаў.

Рабочы-стаханавец тав. Палей з арцелі «Рэкорд» выступіў з прапановай: «Я прапаную першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага

Совета БССР ад пролетарскай выбарчай акругі вылучыць геніяльнага правадыра народаў СССР, правадыра сусветнага пролетарыята Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна».

Тав. Кірзнер дадаў: «Я прапаную вылучыць кандыдатам у дэпутаты вярхоўнага органа нашай рэспублікі саратніка таварыша Сталіна—Кліментa Ефрэмавіча Варашылава. Мы з'яўляемся цяпер шчаслівымі і з жахам успамінаем былое цёмнае, жабрацкае жыццё.

Жыві доўгія годы, таварыш Сталін! Ты даў нам заможнае жыццё. Ты вывеў нас з цёмнага мінулага ў светлае сучаснае.

Мы не баімся пагроз падпальшчыкаў вайны. У нас ёсць чым абараняць, ёсць каму абараняць. У нас ёсць магутная Чырвоная армія, на чале якой стаіць лепшы саратнік вялікага Сталіна—Клімент Ефрэмавіч Варашылаў. Я таксама прапаную кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР кіраўніка беларускіх большэвікоў таварыша Волкава Аляксея Аляксеевіча».

Прыведзеныя прамовы двух таварышоў характэрны для ўсіх выступленняў на сходах горада і раёна. Асабліва цікавы выступленні старыкоў. Яны ўспамінаюць праклятае дарэволюцыйнае мінулае і параўноўваюць з шчаслівым сучасным. Пажылыя людзі ганарацца сваімі дзецьмі—настаўнікамі, аграномамі, інжынерамі, лётчыкамі, камандзірамі.

Вось што гаворыць тав. Томчын: «Беспрасветная галеча і бяспраўе да Кастрычніцкай рэволюцыі былі спадарожнікамі жыцця майго бацькі і ўсіх працоўных. Жыццё ўбачыў я толькі пры совецкай уладзе. У мяне шчаслівыя дзеці. Адзін сын працуе настаўнікам, другі канчае дзесяцігодку і з'яўляецца інструктарам авіямадэлізма, дачка займаецца ў 7 класе. Мне хочацца сёння ва ўвесь голас сказаць: «Шчырае дзякуй комуністычнай партыі, вялікаму Сталіну, совецкай уладзе за шчаслівае, радаснае жыццё!

Прапаную першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР вылучыць таварыша Сталіна».

Толькі ворагі народа, подлыя здраднікі радзімы не хочуць бачыць велізарных перамог і дасягненняў, якія мае совецкі народ з таго моманту, калі ва ўладзе сталі рабочыя і сяляне, калі жыццё наша стала будавацца па ўказанню вялікіх настаўнікаў працоўных—Леніна і Сталіна.

На прыкладзе любой вёскі можна паказаць рост нашых дасягненняў за гады совецкай улады і асабліва за дзве сталінскія пяцігодкі.

Вёска Валотчыцы, Беліцкага сельсовета да рэволюцыі не мела школы, аб медыцынскім пункце сяляне і марыць не смелі. Калі-б 20 год назад хто-небудзь сказаў селяніну, што ён будзе ездзіць у горад, у больніцу, на рынак на ўласнай аўтамашыне, то, безумоўна, ніхто-б яму не паверыў. А што мае гэта вёска цяпер? Там вырас калгас імя «Праўды», на палях якога працуюць трактары, пабудавана сямігадовая школа, медыцынскі пункт. Калгас мае тры ўласныя аўтамабілі. На сходзе 20 мая ў калгасе адбылася сустрэча старыкоў з маладымі выбаршчыкамі. Пажылыя людзі, па 60—85 гадоў, жывыя сведкі праклятага мінулага, перанёсшыя на сваіх плячах жабрацтва, голад і галечу, у простых словах дзяліліся ўспамінамі.

60-гадовая калгасніца Хадаровіч Анна Леонаўна расказвала: «Хадзіла я на работу ў маёнтак Чапялі, дзе за 20 капеек у дзень працавала ад цямна да цямна. Бывала, ідзеш на панскую работу—праклінаеш сваё горкае жыццё. Але нічога не зробіш: голад гнаў мяне ў

лапы памешчыка-крывасмока. Жанчына раней не жыла, а пакутавала. Яна несла падвойны прыгнёт. Царскі закон ды царква рабілі жанчыну рабыняй. Толькі совецкая ўлада забяспечыла свабоду. Калгасны лад, штодзенныя клопаты таварыша Сталіна аб нас, сялянах, зрабілі наша жыццё шчаслівым і радасным. За шчасце і радасць вялікае дзякуй роднаму Сталіну. Ажыццяўляючы свае правы па Сталінскай Канстытуцыі ў дзень выбараў—26 чэрвеня, я аддам свой голас за партыю большэвікоў, за тварца шчасця народаў—таварыша Сталіна, за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных».

68-гадовы Амелькові́ч Емельян расказаў маладым выбаршчыкам аб тым, як 25 год батрачыў у памешчыка Развадоўскага за 10—15 рублёў у год.

Маладыя выбаршчыкі дзякавалі старыкоў за тое, што яны ўзбагацілі іх веды аб мінулым цяжкім жыцці сялянства і ў сваю чаргу расказалі ім аб светлым і радасным жыцці моладзі пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі.

Амелькові́ч Пётр і Бародзіч Іван радаваліся свайму поўналеццю: «Дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР будзе для нас днём найвялікшага шчасця. Мы першы раз прымем удзел у выбарах. Свае галасы мы аддадзім за вялікую партыю большэвікоў, за правадыра народаў таварыша Сталіна. Мы будзем галасаваць за патрыётаў нашай квітнеючай радзімы—бацькаўшчыны працоўных усяго свету».

Наш Слуцкі раён, як і любы раён Совецкага Саюза, мае выключна багаты наглядны матар'ял для агітацыі. Любы наш агітатар разам са слухачамі свайго гуртка, разам са старыкамі можа лёгка падлічыць, колькі ў іх вёсцы было раней, 20—30 год назад, веласіпедаў, самавараў, швейных машын, ботаў, колькі мела вёска пісьменных людзей, ці была там школа, больніца, колькі сялян вышла ў настаўнікі, аграномы, інжынеры, урачы, камандзіры, танкісты, трактарысты, лётчыкі. Што можа быць нагляднеи, калі параўнаць гэтыя лічбы з сучаснасцю? Для прапагандыстаў і агітатараў гэта лепшы дапаможнік.

Да выбараў у Вярхоўны Совет БССР калгаснікі нашага раёна прыходзяць з немалымі дасягненнямі. Яны маюць чым пахваліцца. На нашых калгасных палях працуюць 117 трактароў, 4 трактарныя сеялкі, 18 культыватараў, 20 камбайнаў і шмат іншых сельскагаспадарчых машын. Многія калгаснікі маюць у доме электрычнасць.

У сваёй агітацыйнай рабоце мы скарыстоўваем гэтыя дасягненні, як наглядную ілюстрацыю таго, чаго дабіліся калгаснікі пад кіраўніцтвам нашай партыі і ўрада. Адначасова тлумачым выбаршчыкам, што неабходна строгае захаванне і выкананне дзяржаўных законаў, бо варожае атрэб'е вядзе падрыўную работу, накіраваную на разлажэнне працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, на знішчэнне соцыялістычнай уласнасці.

Гарачы водгук сустрэлі пісьмы калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі імя Чапаева, Палтаўскай вобласці, Украінскай ССР і калгаснікаў арцелі «Шрома» («Праца») Грузінскай ССР.

У пастановах, рэзалюцыях і адказных пісьмах калгаснікі Слуцкага раёна выказваюць пачуцце брацкай салідарнасці і дружбы з украінскім і грузінскім народамі, кляймяць беларускіх буржуазных нацыяналістаў, трацкісцка-бухарынскіх шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў. Разам з гэтым працоўныя раёна бяруць абавязацельствы павысіць рэволюцыйную пільнасць, выкрываць і знішчаць рэшткі вора-

гаў народа, пад якой-бы маскаю яны ні хаваліся, узмацняць сваю мабілізацыйную гатоўнасць, умацоўваць абараназдольнасць краіны.

Праведзеныя сходы характарызуюцца высокай актыўнасцю калгаснікаў.

У калгасе «Камбайн» Кіраўскага сельсовета выступіў 75-гадовы калгаснік Лясун Пятрусь. Ён расказаў, што раней не мог вучыць дзяцей, бо за вучобу трэба было плаціць грошы. А зараз яго сын вучыцца ў ВНУ і атрымлівае стыпендыю.

У калгасе імя Кірава, Казловіцкага сельсовета, 60-гадовы Мілеўскі Цімох расказаў на сходзе, што ён за 1937 год разам з жонкаю выпрацаваў 740 працадзён і атрымаў: 54 пуды збожжа, 530 пудоў бульбы, 54 п. сена, 54 п. саломы і 629 рублёў грашмі; мае добрую светлую хату, карову, двух свіней і двух авечак. Трахімовіч Антон з гэтага-ж калгаса гаварыў: «У мінулым я быў бядняк. Разам з сям'ёю заўсёды працаваў на кулака. Зараз я працую ў калгасе. У мінулым годзе меў 552 працадні, за якія атрымаў 40 пудоў зярна, 405 п. бульбы і 500 руб. грошай. Маю добрую хату, карову, цёлку, трох свіней і авечкі. Жыву вельмі добра».

На агульным сходзе ў калгасе «Рассвет» (вёска Падзер, Мялешкаўскага сельсовета) калгаснікі расказалі аб сваім заможным жыцці. Выступалі стаханаўцы і стаханаўкі соцыялістычных палёў: Скрыпкоўская Прося, якая выпрацавала ў 1937 г. 300 працадзён і атрымала 45 пудоў збожжа, а ў мінулым батрачыла, ніколі не маючы хлеба; Бараноўскі Міхась, які выпрацаваў з сям'ёю 1358 працадзён і атрымаў 226 пудоў збожжа, 600 пудоў бульбы, 600 руб. грашмі і інш.

Такіх прыкладаў шмат і па іншых калгасах.

Агітацыйную работу да выбараў у Вярхоўны Совет БССР мы спалучаем з мабілізацыяй працоўных на выкананне ўсіх дзяржаўных абавязацельстваў як па мясу, малаку, фінансах, так і ўсіх агранамічных мерапрыемствах у калгасе, па захаванню соцыялістычнай калгаснай маемасці і т. д.

З велізарным уздымам сустрэлі працоўныя раёна радасную вестку аб тым, што наш дарагі правадыр і настаўнік—вялікі Сталін і яго бліжэйшыя слаўныя саратнікі таварышы Молатаў, Кагановіч, Варашылаў, Калінін, Мікаян, Андрэеў, Ежоў, Жданаў далі згоду балатыравацца і зарэгістраваны кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР.

На многалюдных сходах і мітынгах у палкіх і шчырых прамовах, поўных совецкага патрыятызма, рабочыя, калгаснікі, працоўная інтэлігенцыя выказваюць сваю любоў і бязмежную адданасць партыі Леніна—Сталіна, дэманструюць сваё маральна-палітычнае адзінства вакол сталінскага Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, вакол совецкага ўрада і таварыша Сталіна. У іх гарачых прамовах гучыць гордасць за сваю радзіму, за партыю Леніна—Сталіна, за пераможны шлях барацьбы, пройдзены шчаслівымі народамі вялікай соцыялістычнай радзімы.

Дзень выбараў у Вярхоўны Совет БССР для працоўных нашага раёна, як і для ўсіх народаў нашай неасяжнай радзімы, будзе днём новай мабілізацыі сіл, днём новага трыумфу непераможнага блока комуністаў і беспартыйных.

26 чэрвеня працоўныя нашага раёна з вялікай радасцю аддадуць свае галасы за лепшых людзей краіны, якія непахісна ідуць па

шляху, указанаму партыяй Леніна—Сталіна і здольны быць дзяржаўнымі дзеячамі ленінска-сталінскага тыпу.

У гэты гістарычны дзень працоўныя нашага раёна, разам з усімі працоўнымі нашай многамільённай квітнеючай краіны, яшчэ раз прадэманструюць сваю адданасць і любоў да нашай партыі, да нашага вялікага Сталіна. У гэты дзень працоўныя зноў прадэманструюць сваю гатоўнасць па першаму закліку партыі і совецкага ўрада стаць на абарону свяшчэнных граніц нашай цудоўнай соцыялістычнай бацькаўшчыны.

---

Г. Іўкін

Старшыня Комсамольскай акруговай
выбарчай камісіі Слуцкага раёна.

# Па-большэвіцку правядзем выбары ў Вярхоўны Совет БССР

У час выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Совет СССР партыйныя, совецкія, комсамольскія, профсаюзныя і грамадскія арганізацыі горада Слуцка накапілі каштоўны вопыт арганізацыйна-палітычнай работы ў масах ва ўмовах ажыццяўлення Сталінскай Канстытуцыі.

Да надыходзячых выбараў у Вярхоўны Совет БССР яны павінны забяспечыць далейшы ўздым палітычнай актыўнасці мас, цвёрда памятаючы ўказанне таварыша Сталіна:

> «Сіла большэвікоў, сіла комуністаў заключаецца ў тым, што яны ўмела акружаюць нашу партыю мільёнамі беспартыйнага актыва. Мы—большэвікі—не мелі-б такіх поспехаў, якія маем цяпер, калі-б не ўмелі заваяваць на бок партыі давер'е мільёнаў беспартыйных рабочых і сялян. А што для гэтага патрабуецца? Для гэтага патрабуецца, каб партыйныя не адмаўляліся ад беспартыйных, каб не замыкаліся ў сваю партыйную скарлупу, каб яны не кічыліся сваёй партыйнасцю, а прыслухоўваліся да голасу беспартыйных, каб яны не толькі вучылі беспартыйных, але і вучыліся ў іх».

Рыхтуючыся да выбараў у Вярхоўны Совет БССР, Слуцкі райком партыі стварыў вялікія калектывы агітатараў і прапагандыстаў. Па гораду працуюць 224 гурткі, якімі ахоплена 6 356 выбаршчыкаў (у кожным гуртку налічваецца ў сярэднім 28 чал.). Акрамя гэтага, 87 агітатараў працуюць у гуртках хатніх гаспадынь. Гэтымі гурткамі ахоплена 776 чал. (у сярэднім на гурток 8—9 чал.). Да кожнага выбарчага ўчастка прымацаваны партыйныя і комсамольскія арганізацыі (электрастанцыі, 1-й школы, райфа і інш.). Як недахоп у разгортванні агітацыйнай работы, трэба адзначыць тое, што створаныя гурткі яшчэ і зараз па колькасці слухачоў вельмі вялікі. Ёсць гурткі, якія налічваюць па 30 і больш чалавек. Гэты недахоп мы выпраўляем на-хаду.

Дзейна рыхтуюцца да выбараў у Вярхоўны Совет БССР і выбаршчыкі калгаснага сяла. У комсамольскую выбарчую акругу ўваходзіць Казловіцкі сельсовет, дзе створаны два выбарчыя ўчасткі. Прымацаваныя да іх члены акруговай выбарчай камісіі т.т. Марушкевіч і Каршэвіч дапамагаюць у наладжванні агітацыйна-прапаган-

дысцкай работы. Арганізавана 20 палітычных гурткоў, якія займаюцца 2 разы ў тыдзень. З агромным інтарэсам вывучаюць калгаснікі Канстытуцыю БССР і Канстытуцыю СССР.

За гэты час па выбарчай акрузе праведзены 63 прадвыбарчыя сходы, на якіх прысутнічала 9 450 выбаршчыкаў. Праведзен гарадскі мітынг выбаршчыкаў—прысутнічала 3 500 чал., а таксама акруговая нарада—прысутнічала 150 чал. Усе сходы, мітынгі і нарады праходзяць з вялікай палітычнай актыўнасцю і дзелавітасцю Так, на сходзе ў калгасе «1 мая» калгаснікі Кац, Борд, Арон, Мукасей, Крывадубскі, Патрон у сваіх выступленнях дзякавалі нашу большэвіцкую партыю і таварыша Сталіна за шчаслівае, радаснае калгаснае жыццё. Кандыдатамі ў Вярхоўны Совет БССР яны прапанавалі таварыша Сталіна і яго лепшых саратнікаў—тт. Молатава, Ежова, Жданава, Чубара, Андрэева, Мікаяна, Будзённага, сакратара ЦК КП(б)Б тав. Волкава, старшыню ЦВК БССР тав. Наталевіча.

Калгаснік тав. Левіцін падзяліўся ўспамінамі аб сваім цяжкім мінулым і сучасным радасным жыцці:

«Цяжка было жыць працоўным да Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі. Яўрэі неслі падвойны гнёт. Яны не мелі права працаваць на зямлі, жыць у вялікіх гарадах. Царская ўлада ўстанавіла мяжу аселасці. Толькі партыя большэвікоў дала працоўным новае, шчаслівае і радаснае жыццё. Мы атрымалі Сталінскую Канстытуцыю—самую дэмакратычную ў свеце. У ёй запісаны нашы заваяванні. Совецкі народ мае права на працу, асвету, адпачынак. Нашы дзеці навучаюцца ў вышэйшых навучальных установах. У інстытутах Масквы, Ленінграда, Харкава і Менска вучыцца больш 50-ці чалавек моладзі нашага калгаса. А колькі навучаецца ў сярэдніх школах! Усё гэта шчасце даў нам таварыш Сталін, совецкая ўлада. 26 чэрвеня 1938 г. мы—яўрэі, беларусы, палякі, украінцы, татары, цыганы—пойдзем выбіраць Вярхоўны Совет нашай рэспублікі прамым і тайным галасаваннем. Збылося тое, аб чым марылі лепшыя розумы чалавецтва. Таварышы! Я прапаную вылучыць першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета нашай ордэнаноснай рэспублікі чалавека, які даў нам шчасце і радасць,—таварыша Сталіна».

Аднадушнае жаданне калгаснікаў—вылучыць кандыдатамі тых, хто даў беларускаму народу шчаслівае і радаснае жыццё.

У выбарчай кампаніі вялікую актыўнасць праяўляюць жанчыны калгаснага сяла.

Калгасніца тав. Кац выступіла з яркай прамовай:

«Да рэволюцыі жанчына не лічылася за чалавека, не мела ніякага права ў дзяржаве. Сталінская Канстытуцыя дала ёй правы, аднолькавыя з мужчынай. Совецкая жанчына—самая шчаслівая ў свеце. Аб ёй клапоціцца таварыш Сталін. У нашай краіне радасна быць маці. Для нашых дзяцей пабудаваны яслі, пляцоўкі, школы. Шматдзетным совецкая ўлада дапамагае. Мы добра памятаем словы таварыша Сталіна аб тым, што ўвесь наш народ павінен быць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці, каб у любы момант даць рашучы адпор ворагу, які пасмее напасці на нашу радзіму. Совецкі Саюз мае самую моцную ў свеце Чырвоную армію. Па першаму заклику мы ўсе, як адзін, пойдзем з нашай РСЧА пад камандай першага маршала Совецкага Саюза Клімента Ефрэмавіча Варашылава граміць ворагаў. Я прапаную вылучыць кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета ад нашай комсамольскай акругі горада Слуцка жалезнага нар-

кома абароны—таварыша Варашылава, камандарма цяжкай прамысловасці—таварыша Кагановіча, старшыню прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР—таварыша Калініна.

Калгаснікі нашай рэспублікі, як і ўвесь беларускі народ, дзякуюць партыі, совецкай уладзе і таварышу Сталіну за тое, што яны ўказалі сялянству адзіны верны шлях да светлага, радаснага жыцця—шлях калектывізацыі».

Не менш хвалюючым было выступленне стаханаўкі-ткачыхі тав. Лазоўскай на прадвыбарчым сходзе ў арцелі «Ударнік»:

«Жанчына да соцыялістычнай рэволюцыі,—гаворыць тав. Лазоўская,—была рабыняй. Яна працавала па 14-16 гадзін і за гэта атрымлівала няшчасныя грашы. Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя прынесла жанчынам радасць і шчасце. Над намі заззяла сталінскае сонца, яно асвятліла цёмную, забітую жанчыну. Сталінская Канстытуцыя дала жанчыне права выбіраць і быць выбранай. Ёй прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця.

Для ўсіх працоўных БССР дзень 26 чэрвеня 1938 г. будзе ўсенародным святам. Аб'яднаўшыся ў магутны, непераможны блок комуністаў і беспартыйных, мы выберам у вярхоўны орган БССР лепшых сыноў нашай радзімы, аддаючых усе свае сілы ва імя працвітання працоўнага народа. Я вылучаю кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР нашага любімага правадыра—таварыша Сталіна».

Падрыхтоўка да правядзення выбараў у Вярхоўны Совет БССР суправаджаецца ўздымам вытворчай і палітычнай актыўнасці мас. Рабочыя і служачыя арцелі «Ударнік» у прынятай рэзалюцыі на мітынгу, прысвечаным вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета, заявілі:

«Мы аднадушна вылучаем першым кандыдатам у дэпутаты вярхоўнага органа нашай рэспублікі любімага Сталіна і яго баявых саратнікаў—таварышоў Молатава, Кагановіча, Варашылава, Ежова, Калініна, а таксама выконваючага абавязкі сакратара ЦК КП(б)Б тав. Волкава і выконваючага абавязкі старшыні ЦВК БССР тав. Наталевіча.

Мы яшчэ шырэй разгорнем соцспаборніцтва і стаханаўскі рух, лепш вывучым «Палажэнне аб выбарах» і Сталінскую Канстытуцыю. Цвёрда памятаючы ўказанні таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, мы вышэй узнімем рэволюцыйную пільнасць, яшчэ цясней згуртуемся вакол комуністычнай партыі і вялікага Сталіна, яшчэ больш умацуем сталінскі блок комуністаў і беспартыйных.

Няхай жыве непераможны сталінскі блок комуністаў і беспартыйных!»

Рабочыя горада Слуцка на сваіх сходах вылучылі лепшых стаханаўцаў у выбарчыя камісіі ўчасткаў.

Агульны сход рабочых і служачых Слуцкай сельгасмайстэрні аднагалосна рэкамендаваў у члены гарадской участковай выбарчай камісіі па выбарах у Вярхоўны Совет БССР лепшага стаханаўца—токара Вайнера, які, будучы членам участковай камісіі па выбарах у Вярхоўны Совет СССР, забяспечыў добрую пастаноўку агітацыйна-масавай работы на ўчастку.

Акруговая камісія комсамольскай выбарчай акругі правяла некалькі арганізацыйных нарад. Кожны член камісіі прымацован да пэўнага выбарчага ўчастка для сістэматычнай дапамогі ў наладжванні партыйна-палітычнай работы.

У спецыяльна абсталяваным памяшканні ўстаноўлена штодзеннае дзяжурства. Выбарчая камісія заслухала даклад старшыні гарадскога Совета тав. Эзрына аб ходзе падрыхтоўкі да выбараў. Гарадскі Совет многа працаваў над складаннем спісаў выбаршчыкаў. Члены акруговай камісіі цяпер правяраюць гэту работу.

Акруговая камісія склала план сваёй работы, у якім указана, што павінны рабіць члены камісіі на ўчастках, колькі правесці нарад з членамі ўчастковых камісій, як весці заняткі па растлумачэнню выбарчага закона, як працаваць з сакратарамі ўчастковых выбарчых камісій.

Усе мерапрыемствы акруговай камісіі мабілізуюць працоўных на стопроцантны ўдзел у выбарах.

З вялікім уздымам праходзяць зараз сходы працоўных раёна комсамольскай выбарчай акругі, прысвечаныя абмеркаванню пісьма калгаснікаў калгаса імя Чапаева, Палтаўскай вобласці, Украінскай ССР.

У выступленнях, рэзалюцыях і адказных пісьмах калгаснікі выказваюць пачуцце брацкай салідарнасці і дружбы з украінскім народам. Яны кляймяць ганьбай буржуазных нацыяналістаў, трацкісцка-бухарынскіх фашысцкіх шпіёнаў, дыверсантаў, забойцаў і бяруць на сябе канкрэтнае абавязацельства: добра падрыхтавацца і ўзорна правесці выбары ў Вярхоўны Совет БССР.

Калгаснікі калгаса «1 мая» у сваім адказе на пісьмо чапаеўцаў заявілі:

«Вельмі правільна Вы адзначылі, што ў нас аднолькавы лёс— горкае мінулае і радаснае сучаснае. І беларускі і украінскі народы на працягу вякоў былі пад гнётам памешчыка, кулака, фабрыканта і царскага апрычніка. Мы пазбаўлены былі эканамічных і палітычных правоў. Трацкісцка-зіноўеўскія і бухарынскія бандыты прабавалі адарваць Совецкую Украіну і Совецкую Беларусь ад вялікага Совецкага Саюза і аддаць нашы народы ў няволю капіталістам і памешчыкам, але ім гэта не ўдалося і ніколі не ўдасца, яны атрымалі за гэта па заслугах. Пад сцягам партыі Леніна—Сталіна мы пабудавалі новую, соцыялістычную калектыўную гаспадарку і, умацаваўшы яе, маем нядрэнныя паказчыкі росту гаспадаркі. Ёсць аб чым расказаць адзін другому».

На аснове прымянення аграправіл калгас «1 мая» у 1937 г. дабіўся ўраджаю ў сярэднім: зернавых 15 ц. з га, а на паасобных участках па 26 ц. з га, бульбы 185 ц. з га, а на паасобных участках па 420 ц. з га, і кармавых буракоў у сярэднім 600 ц., а на паасобных участках—920 ц. з га.

На працадзень калгаснікі атрымалі зернавых па 3 кг., бульбы— 12 кг., гародніны—6 кг. і па 3 р. 70 к. грашмі. Так, сям'я калгасніка Клюйко Пятра пры 3-х працаздольных атрымала 3200 рублёў грошай і 25 ц. зернавых, сям'я калгасніка Мардвілка Кузьмы пры 4-х працаздольных атрымала 3700 руб. грошай і 30 ц. зярна.

Калгас узяў на сябе абавязацельства на 1938 год дабіцца яшчэ лепшых паказчыкаў ураджайнасці: зернавых у сярэднім 22 ц. з га

і бульбы 250 ц. з га, а на паасобных участках: зернавых 40 ц. і бульбы 500 ц. з га. Калгаснікі разлічваюць атрымаць на працадзень у гэтым годзе не менш 5 кг. зернавых, 15 кг. бульбы і 4 руб. грашмі.

Калгаснікі заявілі: «У гістарычны для беларускага народа дзень—26 чэрвеня мы дружна прыдзем на выбарчы ўчастак і аднадушна аддадзім свае галасы за вялікага Сталіна, за яго верных саратнікаў, за кандыдатаў непахіснага блока комуністаў і беспартыйных».

Непарыўнай сувяззю звязана БССР з астатнімі дзесяццю брацкімі саюзнымі рэспублікамі. Несакрушальна магутнасць совецкага народа пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна. Вялікі шматнацыянальны совецкі народ адзіны ў сваёй адданасці і згуртаванасці вакол большэвіцкай партыі, яе сталінскага ЦК і совецкага ўрада. Выбары ў Вярхоўны Совет БССР яшчэ раз прадэманструюць перад усім светам непахісную адданасць совецкага народа справе комунізма, яго нянавісць і бязлітаснасць да ўсіх ворагаў соцыялістычнай радзімы, яго беззаветную любоў да большэвіцкай партыі і яе мудрага правадыра—вялікага Сталіна, яго непахіснае маральна-палітычнае адзінства, несакрушымасць блока комуністаў і беспартыйных.

---

**Г. Жэлезнякоў**

**Старшыня Слуцкай Кіраўскай выбарчай акруговай камісіі.**

# Дзень выбараў сустрэнем падрыхтаванымі

Слуцкая Кіраўская выбарчая акруговая камісія разгарнула агромную работу па падрыхтоўцы да надыходзячых выбараў вярхоўнага органа Беларускай ССР.

У нашу выбарчую акругу ўваходзяць 7 сельсоветаў (Серажскі, Івана-Агародніцкі, Беліцкі, Кіраўскі, Ісернскі, Лучнікоўскі і Вяліка-Сліўскі). Створана 14 участкаў, у якіх працуе 126 членаў выбарчых камісій. Гэтыя людзі павінны дакладнай і ўзорнай работай апраўдаць высокае давер'е, аказанае ім совецкім народам.

У час выбараў у Вярхоўны Совет СССР я працаваў старшынёй Ленінскай участковай выбарчай камісіі. Тады праведзена была вялікая агітмасавая работа з выбаршчыкамі. Яна дала бліскучыя рэзультаты: усе 100 процантаў выбаршчыкаў галасавалі за блок комуністаў і беспартыйных. На аснове атрыманага багацейшага вопыту мы маем поўную магчымасць правесці выбары ў Вярхоўны Совет БССР з няменшым поспехам. Тым больш, што 70 процантаў членаў акруговай камісіі прымалі актыўны ўдзел у выбарах у Вярхоўны Совет СССР.

Па нашай выбарчай акрузе створана 7 агіткалектываў, у якіх працуе 163 агітатары. 84 проц. выбаршчыкаў у 163 гуртках вывучаюць палажэнне аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Агіткалектывам Беліцкага сельсовета кіруе парторг тав. Кажамякін. У яго працуюць 32 гурткі, якімі ахоплена 94 проц. выбаршчыкаў.

Да красавіка якасць палітычнай агітацыі была не на высокім узроўні. Заўважалася слабое наведванне гурткоў, выпадкі зрыву заняткаў. У канцы красавіка Слуцкі райком партыі правёў 3-дзенныя курсы агітатараў з адрывам ад вытворчасці. У выніку значна палепшылася агітмасавая работа ў гуртках, павысіўся процант наведвання.

Палепшанне масава-палітычнай работы сярод калгаснікаў спрыяла выкананню важнейшай гаспадарчай задачы—веснавой пасеўнай кампаніі. План сяўбы зернавых і бульбы па Кіраўскай выбарчай акрузе быў поўнасцю выканан яшчэ к 12 мая.

Прадвыбарчыя сходы з'явіліся новай магутнай дэманстрацыяй маральнага і палітычнага адзінства совецкага народа, дэманстрацыяй рэвалюцыйнай згуртаванасці і адданасці працоўных большэвіцкай партыі і яе сталінскаму Цэнтральнаму Камітэту. На прадвыбарчых сходах яшчэ і яшчэ раз, з новай сілай адчувалася бязмежная любоў совецкага народа да социялістычнай радзімы, цесная згуртаванасць

яго вакол комуністычнай партыі, вакол совецкай улады, вакол горача любімага таварыша Сталіна.

Рабочыя і служачыя цагельнага завода на сваім прадвыбарчым сходзе аднадушна вылучылі першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР роднага бацьку—Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Яны вынеслі рашэнне, у якім пішуць:

«Мы просім Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна даць сваю згоду балатыравацца па нашай Слуцкай Кіраўскай выбарчай акрузе. Мы вылучаем кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета нашай Беларускай ордэнаноснай рэспублікі лепшых саратнікаў вялікага Сталіна: таварышоў Варашылава, Молатава, Калініна, Кагановіча, Ежова, Мехліса, Косарэва, а таксама выконваючага абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б тав. Волкава і выконваючага абавязкі старшыні ЦВК БССР—тав. Наталевіча».

З агромным палітычным уздымам прайшоў прадвыбарчы сход у калгасе «Новае жыццё» Івана-Агароднiцкага сельсовета. У аднагалосна прынятай рэзалюцыі калгаснікі пішуць:

«Першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР мы вылучаем роднага Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Мы просім Іосіфа Вісарыёнавіча даць сваю згоду балатыравацца па нашай выбарчай акрузе.

Адначасова мы вылучаем кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР лепшых саратнікаў таварыша Сталіна—таварышоў Молатава, Л. М. Кагановіча, Ежова, Мікаяна, Жданава, Будзённага, Блюхера, а таксама выконваючага абавязкі старшыні ЦВК БССР тав. Наталевіча, першага сакратара ЦК КП(б)Б тав. Волкава, старшыню СНК БССР тав. Кавалёва. Мы просім гэтых таварышоў даць сваю згоду балатыравацца па нашай выбарчай акрузе.

Абавязваемся дзень выбараў—26 чэрвеня—сустрэць добра падрыхтаванымі. Аддадзім усе свае галасы за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных. Будзем змагацца за атрыманне 250 ц. бульбы і 20 ц. зернавых з гектара. Абавязваемся своечасова разлічыцца з дзяржавай па абавязковых плацяжах».

На прадвыбарчых сходах у калгасах «Праўда» Беліцкага сельсо вета, «Красіна» Вяліка-Сліўскага сельсовета, «Чырвоны май» Ісернскага сельсовета і ў іншых калгасах, абмяркоўваючы кандыдатуры ў дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, калгаснікі ўзялі на сябе абавязацельства—прыйсці к дню выбараў з бліскучымі гаспадарча-палітычнымі паказчыкамі. Па Ісернскаму і Вяліка-Сліўскаму сельсоветах прадвыбарчымі сходамі ахоплена 1515 выбаршчыкаў.

На ўсіх прадвыбарчых сходах калгаснікі аднадушна вылучаюць кандыдатамі ў Вярхоўны Совет БССР таварышоў Сталіна, Варашылава, Ежова, Молатава, Калініна, Жданава, Волкава, Наталевіча.

З вялікім натхненнем праходзяць цяпер сходы выбаршчыкаў, прысвечаныя абмеркаванню пісьма калгаснікаў калгаса імя Чапаева Палтаўскай вобласці. У сваім адказным лісце калгаснікі калгаса імя Варашылава Кіраўскага сельсовета заявілі:

«Праклятае мінулае ад нас далёка адышло, і яму няма больш звароту. Мы з нянавісцю ўспамінаем памешчыка Скроцкага, ад якога нам прыходзілася цярпець здзекі. Зямлі ў нас не было, а ён меў 1000 гектараў адной толькі ворнай зямлі. Ён панаваў, а мы гаравалі. Марыць аб асвеце тады не было чаго. Толькі Кастрычніцкая рэволюцыя дала працоўным свабоду, шчаслівае і радаснае жыццё.

Толькі пры совецкай уладзе ў 1928 годзе на месцы былога маёнтка арганізаваўся калгас імя Варашылава, які за гады свайго існавання даў краіне 6 ветурачоў, 10 настаўнікаў, 2 інжынераў, 2 урачоў, 5 камандзіраў РСЧА і на сённешні дзень у вышэйшых школах навучаецца 15 чалавек дзяцей калгаснікаў».

Калгаснікі абавязаліся разгарнуць стаханаўскі рух, павысіць норму выпрацоўкі і змагацца за высокі сталінскі ўраджай у 7—8 мільярдаў пудоў хлеба.

Калгаснікі абавязаліся добра арганізаваць догляд за пасевамі, праполку зернавых і гародніх культур, добра падрыхтавацца да ўборкі ўраджаю і своечасова, з першага-ж снапа, здаць дзяржаве хлебапастаўкі добраякасным зярном.

«К дню выбараў,—заявілі калгаснікі,—мы падрыхтуемся добра і 26 чэрвеня свой першы голас аддамо таму, хто штодзенна клапоціцца аб беларускім народзе, хто вывеў яго на светлы, шчаслівы і радасны шлях,—роднаму Сталіну. У дзень выбараў мы аддамо свае галасы за лепшых сыноў і дачок нашай радзімы, за комуністычную партыю, за блок комуністаў і беспартыйных.

Мы даем слова, што ад чапаеўцаў не адстанем і будзем з дня ў дзень змагацца за шчаслівую будучыню.

Няхай жыве непарушная дружба народаў СССР!

Няхай жыве Сталінская Канстытуцыя і яе тварэц—наш родны і любімы Іосіф Вісарыёнавіч Сталін».

У разгортванні палітмасавай работы Слуцкая Кіраўская выбарчая акруга мае ўжо пэўныя поспехі, але ні ў якім разе не павінна супакоіцца на дасягнутым. Мы не можам прайсці міма таго, што не дабіліся яшчэ 100-процантнага ахопу выбаршчыкаў гурткамі па вывучэнню Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Па Ісернскаму сельсовету ў нас не ахоплена яшчэ 350 чалавек, па Вяліка-Сліўскаму—511, па Беліцкаму—200 чалавек і т. д. Агітатары абавязаны безадкладна ахапіць гурткамі ўсіх выбаршчыкаў. Наведваць на даму старыкоў і матак з дзецьмі, якія не маюць магчымасці наведваць гурткі.

Толькі на аснове шырокага разгортвання партыйна-палітычнай і арганізацыйнай работы, бязлітасна выкарчоўваючы рэшткі трацкісцка-бухарынскіх агентаў фашызма, ахапляючы бальшэвіцкім уплывам кожнага выбаршчыка, мы забяспечым узорнае правядзенне выбараў у Вярхоўны Совет БССР, новую перамогу сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

# ВЫБАРЫ КІРУЮЧЫХ ПАРТОРГАНАЎ

**А. Ананьеў**
Сакратар Віцебскага абкома партыі

## Што паказалі выбары кіруючых парторганаў

Для большэвікоў Віцебскай вобласці—адной з буйнейшых арганізацый КП(б)Беларусі, як і для ўсёй нашай ленінска-сталінскай партыі, выбары кіруючых парторганаў характэрны выключным ростам палітычнай і вытворчай актыўнасці шырокіх працоўных мас. Няўхільна выконваючы ўказанні вялікага Сталіна, партыйныя і непартыйныя большэвікі дружна, самааддана мацуюць абароназдольнасць нашай радзімы, множаць яе багацці, павышаюць культуру, авалодваюць навукай і тэхнікай.

Узброеныя вялікім вучэннем марксізма-ленінізма, партыйныя і непартыйныя большэвікі разам са слаўнымі сынамі совецкай разведкі на чале з цвёрдакаменным сталінцам Нікалаем Іванавічам Ежовым правялі вялікую ачышчальную работу. Выкрыты і разгромлены асіныя гнёзды трацкісцка-бухарынскіх шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў, контррэволюцыйнае буржуазна-нацыяналістычнае атрэб'е і іншыя тройчы прэзрэнныя праклятыя агенты японa-германскага і польскага фашызма.

Гэта яны—фашысцкія гадзіны—імкнуліся перабіць нашы большэвіцкія кадры, адцягнуць увагу ад сапраўдных служак фашысцкіх разведак, замаскаваць сляды сваёй падрыўной шпіёнскай дзейнасці, каб мець магчымасць і надалей беспакарана падрываць соцыялістычнае будаўніцтва.

У выніку прытуплення рэволюцыйнай пільнасці ў радзе арганізацый на кіруючыя пасты ў партыйныя, комсамольскія і совецкія органы, у апараты рэдакцый, машынна-трактарныя станцыі прабраліся ворагі народа і праводзілі там агідную падрыўную шкодніцкую работу. У партыйных арганізацыях ворагі паклёпнічалі, ахайвалі чэсных комуністаў, дабіваліся выключэння іх з партыі, заціскалі крытыку, здзекваліся над лепшымі людзьмі.

У пагранічным Ветрынскім раёне без папярэдніх праверак выключалі пачкамі комуністаў з партыі. На адным толькі сходзе пярвічнай арганізацыі райкома партыі адразу было прыцягнута да партыйнай адказнасці 8 комуністаў і тут-жа у пяцярых былі адабраны партыйныя білеты.

Бюро аршанскага райкома партыі, на чале якога доўгі час знаходзіўся польскі шпіён, без разбору, а часам завочна, вырашала лёс комуністаў.

Варожыя гнёзды трацкісцка-бухарынскіх агентаў замежных разведак выкрыты і разгромлены. Але прыведзеныя факты з усёй сілай